*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 8 мая 1987 г. № 19 (3377) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## *9 МАЯ — СВЯТА ПЕРАМОГІ САВЕЦКАГА НАРОДА Ў ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ 1941—1945 ГАДОЎ*

●

Ветэранам вайны, былым абаронцам Брэсцкай крэпасці П. Кацельнікаву, У. Дамброўскаму і Р. Макараву той пераможны май 1945 года здаецца зусім блізкім, рукой дацягнешся. Але сорак два гады, што сплылі з тых векапомных дзён, — гэта сорак два гады. Пасівелі галовы, твары спярэсцілі маршчыны. Ды толькі ўсё гэтак жа востра адчуваюць яны бязмерную радасць перамогі над фашызмам.

Нізкі паклон наш ветэранам, якія прайшлі праз усе нягоды вайны, і наша прывітанне ім у светлы радасны Дзень Перамогі.

Фота А. ШАБЛЮКА.

●

## Адзначаны ўзнагародамі ПНР

Даўнія кантакты і ўзаемасувязі паміж беларускім і польскім народамі. Новыя старонкі ў іх упісваюцца ў апошні час, калі ці не з кожным годам павялічваецца колькасць перакладзеных кніг, якія выходзяць у Беларусі і ПНР.

З'явай у культурным жыцці абодвух народаў стаў выхад паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», перакладзенай Язэпам Семяжонам і праілюстраванай Васілём Шаранговічам.

Дзяржаўны Савет ПНР узнагародзіў Я. Семяжона «Залатым ордэнам Заслугі Польскай Народнай Рэспублікі». В. Шаранговічу прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры ПНР.

У Генеральным консульстве Польскай Народнай Рэспублікі ў Мінску консул па справах культуры Казімеж Паскудзкі павіншаваў беларускіх перакладчыка і мастака і ўручыў Я. Семяжону ордэн, В. Шаранговічу — нагрудны знак.

Гражына ГРЫНКЕВІЧ,
супрацоўніца Генеральнага консульства ПНР у Мінску.



Казімеж Паскудзкі ўручае ордэн Язэпу Семяжону.



Кветкі Васілю Шаранговічу.



Выступае Міхась Стральцоў.

Паўстагоддзя жыцця — час, калі падводзяцца першыя падрахункі. У Міхася Стральцова яны значныя, бо важкія яго творчыя набыткі. З аднолькавым поспехам працуе пісьменнік у галіне прозы і паэзіі, добра вядомы, як крытык і літаратуразнавец, эсэіст і нарысіст.

Вечар у Доме літаратара, прысвечаны 50-годдзю М. Стральцова, сабраў шмат прыхільнікаў яго таленту. Думкамі пра творчасць М. Стральцова падзяліліся вядучы вечара Р. Барадулін, а таксама А. Сямёнава, В. Карамазаў, А. Станюта, А. Асташонак, А. Зарыцкі, Б. Спрынчан, К. Шэрман, В. Тарас.

Артысты мінскіх тэатраў чыталі вершы М. Стральцова і ўрыўкі з яго празаічных твораў, выконвалі песні на яго словы. Творы юбіляра гучалі таксама ў перакладзе на рускую і іспанскую мовы.

М. Стральцоў адказаў на пытанні прысутных, прачытаў новыя вершы.

Тэкст і фота Ул. КРУКА.



Удзельнікі спектакля «Лаўка» Т. Тарабарава і В. Сыцько.

У Доме літаратара прайшла сустрэча з калектывам тэатра-студыі Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў імя Ільіча. Пасля прагляду спектакля «Лаўка» паводле п'есы А. Гельмана (у ролях урач-правізар 6-й клінічнай бальніцы Т. Тарабарава і настаўнік матэматыкі сярэдняй школы № 90 В. Сыцько) пастаноўшчык спектакля, галоўны рэжысёр тэатра В. Грыгалюнас і загадчык літаратурнай часткі тэатра, кіраўнік аб'яднання маладых драматургаў пры студыі А. Асташонак адказалі на пытанні гледачоў.

Сёння ў рэпертуары аматарскага тэатра, створанага ў 1983 годзе, п'есы Я. Шабана «Шрамы», Р. Брэдберы «Чыкагская бездань», пантаміма «Скульптар» паводле сцэнарыя, напісанага самімі ўдзельнікамі трупы. На чарзе — інсцэнізацыя аповесці В. Быкава «Альпійская балада» і пастаноўка аднаактовай п'есы «Вальер» А. Смірнова — удзельніка аб'яднання маладых драматургаў.

Тэкст і фота
А. ЖГІРОЎСКАГА.

**ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ**

# «НАМ ПОМНІЦЬ СОРАК ПЯТЫ ГОД...»

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

### *У дзень Дзевятага мая*

Мы падымаліся з акопаў,
Уваскрашаліся з магіл.
Прайшлі з баямі паў-Еўропы,
Глытаючы дарожны пыл.

Паміж жыццём і смерцю рысу
Рассеклі мы сваім мячом.
Радзімы светлыя абрысы
Свяцілі яркім кумачом.

Не зналі мы багіні Нікі,
Мы верылі ў сяброў сваіх.
І гэты дзень нам стаў вялікім
Для ўсіх—і мёртвых, і жывых.

### *Брагінскі клён*

Когда прекрасные деревья,
Не зная, что они враги,
На ветках держат не поверья,
А тайны ядерной пурги.

Уладзімір САКАЛОЎ

Пад Брагінам,
Над ціхім плёсам,
Адбіўшы ў ростані паклон,
Тут сцерагчы застаўся ён
Людзьмі пакінутую вёску.

Было сваё жыццё і ў клёна:
Дзе мы вялі калісь баі,
Яму пад кронаю зялёнай
Спявалі дружна салаўі.

Зрадні пасляваенным дзецям
Ён нарадзіўся тут і ўзрос,
Аддаючы палям, дасвеццям
Жывое срэбра чыстых рос.

Ён мог залечваць людзям раны
І арашаць сухі падзол,
Вясною сок даваць крамяны,
Амыўшы кропелькамі дол.

Цяпер стаіць, як адзічэлы,
З пахілым позіркам сваім.
І толькі вусень жоўта-белы
Лянiва поўзае па ім.

Дажджу,
Што ліў па-над дарогай,
І сам ён, клён, не заўважаў...
Цяпер жа стаў перасцярогай
Для ўсіх людзей, і дрэў, і траў.

### *Мая эстафета*

Ападаюць хмары снегам,
Серабраць вяршыні гор.
А ці ёсць за дальняй Вегай
Для паэзіі прастор?

Мо не варта мне, паэту,
Узлятаць да зоркі той,—
Трэба несці эстафету
Па дарозе той крутой,

Праз жыццё якая легла —
Без пачатку і канца,
Пад дажджом была і снегам,
Выпрабоўвала байца

Хай не будуць тыя ў крыўдзе,
Пра каго нібы забыў.
Зло ў жыцці я ненавідзеў,
Дабрыню заўжды любіў.

Са шляхоў слядоў не сцерці,
Я нашчадкам раскажу,
Як паміж жыццём і смерцю
Пераходзіў я мяжу.

Мне з гісторыяй у згодзе
Голас трэба свой падаць —
Дваццаць першаму стагоддзю
Эстафету перадаць.

**Віктар ХАЎРАТОВІЧ**

●

У пярэдняй штурмавой калоне
Мужыкі — не год і не другі...
Запрагалі
у плугі не коней —
Бабы запрагаліся ў плугі.

У пастромках канапляных
парамі,
Грэючы надзею на вясну,
Паўлюковы,
Грышкавы,
Назаравы
Не адну цягнулі барану.

Горкім мёдам поўніліся соты
На чмяліных купінах... Ля ног:
Не адзін дзесятак траўных
сотак
Пад касой жаночаю палёг.

Быў і я ва ўпрэжцы той
жаночай,
Што вяла, хісталася ў бакі...
...І ад тых мне баразён
не збочыць,
Не мінуць ніводнай талакі.

### *Вясна, 1942*

Шыбы ўспыхнулі сонцам,
Небасхіл — як пажар...
Жменька солі ў салонцы
Ды апошні сухар.

Маці ступіць у сенцы,
Чыгуночкам трасе:
Мые бульбу-насенку,
Што была на пасеў.

І сястрычка-трохлетка
Захварэла ўсур'ёз.
Смокча дзятлінкі кветкі,
Вочы — поўныя слёз.

Малака б ёй ці юшкі...
П'е настой травяны.
— А дзе наша цялушка?
— На папасе вайны.

Плешчуць хвалі вяснова
У затоцы яршоў,
І нырае лазовы
Кошык мой між карчоў.

Вось і выцягнуў рыбку,
Ды і тую....
ўпусціў...
...Можа б, грукнуў хто ў шыбку,
Можа б, хто разбудзіў?..

●

В. РАКАВУ

Зямля дымілася і прысак
Разносіў вецер па зямлі,
Калі, крыху вышэй калысак,
Мы ў светлы дзень
з вайны прыйшлі.

Прыйшлі ў лапцях,
у тых апратках,
Што маці сшылі нам з радна,
І, быццам снег, на косы матак
Лягла заўчасна сівізна.

Гукалі рэчка, лес...
Ды поле,
Бы маці, звала: — Узары...
Напрацаваўшыся ўволю
Сядалі мы за буквары.

Навук адолелі нямала,
Ды праз гады адну нясём,—
Што нас за плугам гартавала,
Давала сілу за кассём.

Калі жыццё ўзнялося
ў поўдзень
І вёска ўжо не тчэ радна,
Бліжэй усё,—
дзе сцежкай пройдзем...
І даражэйшая радня.

Тут зёлкі ўсе — ад духу злога,
Усё — для сэрца і душы.
...І не канчаецца дарога
Да землякоў, у Целяшы.

●

Аж кружыць голаў пах зямлі,
Вясны бяссонне...
На летні час перавялі
Мы стрэлкі сёння.

Ды апярэдзіў нас жаўрук —
Звініць у небе.
Сялянскі клопат — ранні рух—
Ужо аб хлебе.

І на дарогах дружны гул,
Святло ад лужын.
І столькі спраў, што не магу
Я іх не здужаць.

**Кастусь ІЛЬЮШЧЫЦ**

### *Запявала*

Ад прывала да прывала,
Праз гаі, праз ручаі
Крочыў вецер-запявала
З намі разам у страі.

Цішыня ў лясным палацы...
Жыць ды жыць нам доўгі век.
Спіць у лагернай палатцы
Роўна дзевяць чалавек.

А дзесятым — я начую,—
І сярод салдацкіх цел
Цемра ляжа на пустую,
На мурожную пасцель.

Дзесьці птушка праспявала...
Шоргат жнівеньскай травы...
Разам з ветрам-запявалам
Я да ранку — вартавы.

### *Памяць*

Праз ціш і гром зямных падзей
Былое порахам дыхне.
Нам жыць і помніць пра
людзей
Жывых і паўшых на вайне;

Пра тыя дні без цішыні,
Пра тыя чорныя гады,
Якіх не спаліш у агні,
Хаця знішчаў ён гарады.

Пра тых, хто на палях вайны
За родны край навек ляглі.
Хатыні спаленай званы
Звіняць журботна на зямлі.

Нам помніць сорак пяты год...
Нам сорак першы не забыць
І тых, хто хоча зноў на Ўсход
Паход крыжовы пратрубіць.

Спакойны міг... Трывожны час...
Ідзём праз лета да зімы.
Павер, Айчына, сёння ў нас:
Стаім на варце Міру — мы!

# Браты па зброі

Нядаўна мне давялося ў складзе пісьменніцкай дэлегацыі наведаць Польскую Народную Рэспубліку. Кіраўніком дэлегацыі быў маскоўскі пісьменнік Юрый Тарскі.

З іншымі пазнаёміўся ўжо ў вагоне цягніка «Масква — Варшава».

Разанскі пісьменнік Васіль Золатаў расказаў, як у кастрычніку 1943 года каля пасёлка Леніна на Магілёўшчыне прымаў удзел у баі з фашыстамі разам з воінамі польскай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі. Дзень той стаў днём нараджэння Войска Польскага.

Пісьменнік-перакладчык з польскай мовы Міхаіл Ігнатаў, пачуўшы пра бai ў Беларусі, не мог стрымаць свайго хвалявання. З Беларуссю звязана і яго баявая біяграфія. Восенню 1943 года нашы войскі вялі бой за Слаўгарад. Радавы Ігнатаў у адным з баёў быў цяжка паранены. У шпіталь пайсці адмовіўся. Другі раз варожая куля не абмінула яго ў баях за Быхаў. Далей вогненныя дарогі павялі яго праз Польшчу. Яго салдацкі лёс склаўся так, што ён стаў байцом славутай дывізіі Тадэвуша Касцюшкі.

Раніцаю пераязджаем савецка-польскую граніцу. Мы прыпадаем да акон. Перад намі пералескі, вёскі, палі. Гэтай дарогай праходзіла і мая дывізія ў 1944 годзе. Не такі быў пейзаж, не такія былі дарогі. Не агледзеліся, як колы цягніка загрукалі па мосце цераз Віслу. Вось яна, спакойная, велічная рака. А я памятаю яе ў варожым агні, у дыме.

Едучы ў Польшчу, я захапіў з сабой некалькі кніг для польскіх сяброў — перакладзеныя на беларускую мову зборнік прозы Крашэўскага і вершы Юльяна Тувіма, альбом пра музей Янкі Купалы. Узяў і зборнік Міколы Сурначова «Акопны спеў». Ягонай кніжкі я не мог не ўзяць. Мікола — мой сябар па Гомельскім педінстытуце. Восенню 1944 года наша дывізія была на віленскім плацдарме, на правым беразе ракі, недалёка ад Варшавы. Аднойчы атрымліваю нечаканы ліст. Чытаю: «Добры дзень, дружа! Вельмі рады, што нарэшце знайшлі адзін аднаго. Ведай, Паўлюк, многа мне давялося перажыць. Сем з паловай месяцаў у шпіталі. Твой адрас і мноства напісаных у акопах вершаў загінула... Я зараз таксама на Вісле, хутка ўдарыць вялікі гром, і я буду ўдзельнікам. Па-ранейшаму на камандней рабоце. Займаюся артразведкай. Вершаў амаль не пішу. Няма часу. Ад цябе чакаю вялікага ліста. Твой сябра Мікалай». Зноў, як і тады, боль працяў сэрца. Гэта быў апошні ліст ад майго аднакурсніка. Дзе той акоп ці зямлянка, якія тулілі яго ад восеньскіх дажджоў і халадоў, адкуль у студзені 1945 г. рушыў ён са сваімі аднапалчанамі на Берлін, пад якім паў смерцю героя?

І вось — Варшава. У сонцы, новая, памаладзелая. На вакзале многа народу, шумна. Мы адразу трапляем у абдымкі польскіх пісьменнікаў Мар'яна Рэнека, Эдварда Куроўскага, Багдана Бартнікоўскага, Станіслава Закрэўскага. Перакладчыка не патрабавалася, хоць ён і быў на вакзале.

Уладкаваўшыся ў гасцініцы, крыху адпачыўшы, наведалі савецкае пасольства. У той жа дзень наша дэлегацыя ўсклала вянок да манумента ля Вечнага агню. Манумент зроблены па праекце польскага скульптара Богдана Ляхерта. На мармуры надпіс: «Вечная слава гераічным воінам непераможнай Савецкай Арміі, паўшым у баях з гітлераўскімі захопнікамі за вызваленне Польшчы і нашай сталіцы Варшавы».

Вечарам дэлегацыя была прынята ў Саюзе польскіх пісьменнікаў. У зале вядомыя майстры мастацкага слова, воіны. Пісьменнік Мар'ян Рэнек сказаў:

— Я пад свежым уражаннем нядаўняй паездкі нашай пісьменніцкай дэлегацыі ў Савецкі Саюз. Мы наведалі гарады-героі Адэсу, Керч, Севастопаль. Пазнаёміліся з мужнымі савецкімі салдатамі, жыццём народа, пабывалі на караблях Чарнаморскага флоту...»

Са словам у адказ выступіў Юрый Тарскі. Ён адзначыў, што ў складзе савецкай дэлегацыі ўсе ўдзельнікі вызвалення Польшчы ад фашызму. Ён выступіў з дакладам «Літаратура на варце Айчыны», расказаў аб ролі мастацкага слова ва ўмацаванні дружбы паміж народамі.

Польскі пісьменнік Богдан Бартнікоўскі выступіў з паведамленнем «Баявым шляхам маршала Конева». Многа ўдзячнасці выказаў ён воінам I Украінскага фронту, якія вызвалілі паўднёвыя землі Польшчы ад фашызму.

— Мне было 12 год, калі мяне і маці вывезлі ў лагер смерці Асвенцім,— сказаў ён.— Такіх, як я, былі там тысячы. Дзяцей адлучылі ад бацькоў. Пра ўсё гэта напісаў я ў кнізе «Дзяцінства ў паласатай вопратцы».

Шмат цікавага даведаліся мы аб барацьбе польскіх пісьменнікаў з фашызмам. Нязломным і адважным у гэтай барацьбе праявіў сябе Мар'ян Рэнек. Цяпер ён — старшыня камісіі Саюза польскіх пісьменнікаў па супрацоўніцтве з Войскам, член Саюза змагароў за свабоду і дэмакратыю.

Шчыра гаварылася на гэтай сустрэчы аб ваенна-патрыятычным выхаванні моладзі. На стэндах у Саюзе пісьменнікаў —кнігі савецкіх аўтараў, зборнікі аб падзеях Айчыннай вайны, фотаальбомы. Высветлілася, што польскі пісьменнік Станіслаў Мышлінскі ў складзе савецкіх войск вызваляў Керч, Тамань, Крым і напісаў раман «З аднаго кацялка», які перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы.

З Варшавы мы ўзялі курс на поўдзень Польшчы, на Жэшаў. Горад малады, пашырае свае ўладанні, шмат у ім новабудоўляў. Яго называюць горадам студэнтаў. Маюцца драматычны, лялечны тэатры, працуе аддзяленне Саюза пісьменнікаў.

У вызваленні Жэшаўскага ваяводства прымалі ўдзел войскі военачальнікаў Грэчкі, Якубоўскага, Маскаленкі. На гэтай зямлі ваявалі рускія пісьменнікі Ю. Бондараў, В. Астаф'еў, змагаліся савецкія партызаны.

Потым мы наведалі могілкі савецкіх воінаў, якія аддалі сваё жыццё за вызваленне Жэшаўскага ваяводства. На многіх магілах — букеты кветак. Вабіць вока чысціня. Да абеліска лёг вянок і ад нашай дэлегацыі. Асаблівую нашу ўвагу звярнуў надпіс на стэле на рускай і польскай мовах: «1920—1944 гг. Герою Маладой гвардыі і воіну Туркенічу грамадзяне Жэшаўскага ваяводства». Іван Туркеніч! Хто не ведае гэтага героя? Ён амаль аднагодак усіх нас. Ваенны лёс павёў яго ад Краснадона на захад. Успомніліся радкі Аляксандра Фадзеева пра гэтага героя з рамана «Маладая гвардыя»: «У дні прарыву немцамі Паўднёвага фронту лейтэнант Туркеніч, камандзір батарэі супрацьтанкавых гармат, маючы загад стаяць насмерць, адбіваў атакі нямецкіх танкаў у раёне Калач-на-Доне да таго часу, пакуль увесь гарматны разлік не выбыў са строю і сам ён не зваліўся паранены».

З вялікім хваляваннем і радасцю пад'язджаем мы да Пароніна. Гэта светлая і свяшчэнная зямля. Тут музей У.І. Леніна. Адкрыты ён у суровыя пасляваенныя гады. Ён створаны па ініцыятыве Таварыства польска-савецкай дружбы і знаходзіцца ў доме, пабудаваным мясцовымі майстрамі ў 1901 годзе з піхтавага дрэва.

Непаўторны горад Кракаў, горад-музей. Тут адбылася гутарка ў аддзяленні Саюза пісьменнікаў. Польскія сябры расказалі аб сваёй рабоце. На стэндах—кнігі на рускай мове. Я разгарнуў зборнік вершаў аб Айчыннай вайне, і ў вочы кінуўся верш Міколы Сурначова «У стоптаным жыце» ў перакладзе А. Твардоўскага. Мяне папрасіў паэт Барыс Дубровін прачытаць яго на беларускай мове.

— Напісаны гэты верш сапраўдным паэтам,— сказаў ён. —Нездарма ж яго пераклаў на рускую мову сам А. Твардоўскі...

Вынікі работы нашай дэлегацыі падвёў начальнік Галоўнага палітупраўлення Войска Польскага генерал Тадэвуш Шаціла. Сустрэча вылілася ў сардэчную гутарку аб творчасці і дружбе савецкай і польскай ваеннай літаратуры. Падкрэслівалася яе вялікае выхаваўчае значэнне для маладых воінаў, падрастаючага пакалення.

Савецкія пісьменнікі падзяліліся сваімі ўражаннямі аб сустрэчы з салдатамі і афіцэрамі Войска Польскага, аб наведванні Варшавы, Жэшава, Новага Сонча, Закапанэ, Кракава, выказалі ўдзячнасць польскім таварышам за праяўленыя клопаты.

Генерал Тадэвуш Шаціла ўручыў пісьменнікам медалі «На варце міру» і значкі «Братэрства па зброі»—за іх уклад у справу ўмацавання дружбы і ўзаемадапамогі паміж польскімі і савецкімі народамі і іх літаратурамі.

Сакратарыят Саюза пісьменнікаў СССР сваёй пастановай аб'явіў усім членам дэлегацыі падзяку за актыўную творча-прапагандысцкую работу пад час паездкі ў Польскую Народную Рэспубліку.

Паўлюк ПРАНУЗА.

**Наш няштатны аўтар, іспаніст, дацэнт інстытута замежных моў І. Пладуноў прымаў удзел у Вялікай Айчыннай вайне. У апошнія яе месяцы вёў на фронце дзённік, на матэрыяле якога напісаў кнігу нататак-успамінаў. Друкуем ніжэй раздзел з іх.**

# ІШОЎ АПОШНІ ГОД ВАЙНЫ...

**Не кожнаму, хто ваяваў, хто са зброяй у руках змагаўся «з фашысцкай сілай цёмнаю, з праклятаю ардой», было дадзена здзейсніць нейкі незвычайны подзвіг, не кожнаму даставалася гераічная — у літаральным сэнсе слова — сітуацыя. Але кожны воін пастаянна жыў побач з подзвігам, уносіў, знаходзячыся на пярэднім краі, сваю долю ў подзвіг агульны, калектыўны... Пра гэта думаеш, гартаючы і з цяжкасцю часам разбіраючы запісы ваенных год, варушачы франтавыя ўспаміны, якія жывуць нязменна ў памяці, як мінныя асколкі ў целе...**

**Атрымалася так, што дзённік пачаў весці напярэдадні апошняга года вайны, года сорак пятага. Тады, калі вярнуўся зноў на пярэдні край пасля ранення ў баях на Дняпры і вучобы ў запасным палку (да шпіталя і вучобы быў пехацінцам, пасля стаў артылерыстам). Мая новая часць — Чырванасцяжны 31-ы гвардзейскі артылерыйскі полк — знаходзілася ў лесе. Недзе побач працякала Вісла. Навагоднюю ноч правёў у зямлянцы суседзяў, на правах «кватаранта». З усіх бакоў і зверху сыпаўся пясок. Жартуем: «Навагодняя наша». Ну, а раніцай каша была сапраўды навагодняя, тлустая, а да яе яшчэ і мяса, і сто грамаў франтавых. Па першай норме. Пасунься, трэцяя! Не падцягвай пупок салдата да хрыбетніка! Ёсць у франтавога жыцця і другія адметныя асаблівасці: ні пад'ёму табе, ні паверкі, ні адбою, якія абрыдлі ў «вучэбцы». Франтавая абстаноўка і без надакучлівых настаўленняў дысцыплінуе, умацоўвае баявы дух і армейскае брацтва...**

**Першыя дні сорак пятага. Будуем зямлянкі, зарываемся ў зямлю. Часам налятае варожая авіяцыя, але часцей, асабліва ноччу, б'е міма цэлі. Потым — пераправа цераз Віслу. Нам для агнявой пазіцыі адвялі ўчастак на зусім адкрытай мясцовасці. Толькі дзе-нідзе цямнеў дробны кустарнік. Суцэльная пустка, ды яшчэ без снегу. На зыходзе першая дэкада студзеня, а снегу ўсё няма і няма. Затое калядныя маразы раней звычайнага зваліліся на нашы галовы. Гэта палохала не на жарты: печкі няма, ды і ставіць яе няма дзе, а без печкі валёнкі з кажухом не выратуюць. Замест зямлянкі зрабілі шчыліну для пазменнага адпачынку ад цяжкіх земляных работ. Ужо вельмі паспешліва ўсё робім: так, на пару дзён. Відаць, у бліжэйшыя дні пачнецца наступленне. І вось ранічкай, а шостай гадзіне, сігнал трывогі: «Разлікі, к бою!» І пачалося...**

**Кожны ведаў сваё месца ля гарматы. Калі ўсе разлікі далажылі аб гатоўнасці, і па ланцужку дайшла інфармацыя да НП, адтуль прыйшла каманда: «Падрыхтавацца!» У гэты момант «зайгралі» рэактыўныя ўстаноўкі з ласкавай назвай «кацюшы». Яны знаходзіліся справа, прыкладна за кіламетр ад нашай агнявой. Я ўпершыню назіраў, як вядуць агонь гвардзейскія мінамёты, як паласуюць зімовую ноч іх вогненныя шлейфы. Тут нельга было не акрыяць духам, не прасякнуцца верай у хуткую перамогу... Па сігналу «кацюш» адкрылі ўраганны агонь па ворагу артылерыя сярэдняй магутнасці, з плацдарма, і дальнабойныя гарматы з-за Віслы. Наносіўся ўдар па адным з галоўных абарончых умацаванняў паміж Віслай і Одэрам, на шляху нашых войск у логава фашысцкага звера.**

**Як мы потым даведаліся, пачыналася вялізнае па маштабах і стратэгічным значэнні наступленне Чырвонай Арміі — ад Балтыкі да Карпат. Галоўны ўдар быў нанесены з магнушаўскага плацдарма сіламі чатырох армій, у тым ліку дзвюх танкавых. Апрача таго, на правым флангу нашай арміі наступалі злучэнні 1-й арміі Войска Польскага з выхадам на Варшаву з поўдня. Наша 61-ая армія пад камандаваннем генерала П. А. Бялова наступала ў абыход Варшавы ў паўночна-заходнім напрамку.**

**Гартаю далей свае запісы... «На палітзанятках нам сказалі, што з 17 па 20 студзеня вызвалены Кракаў, Лодзь і іншыя польскія гарады. Перадавыя танкавыя злучэнні знаходзяцца ўжо ў Познані, Быгдашы...»; «Перад намі задача — ажыццявіць марш-кідок на коннай цязе, каб дагнаць перадавыя часці, ад якіх мы адсталі. Задача нялёгкая сама па сабе, а тут яшчэ неспрыяльнае надвор'е: парывісты вецер, завіруха, заносы. Не раз прыходзіцца дапамагаць стомленым коням — выцягваць разам з імі са снегу гарматы. Вось ужо некальні сутак мы амаль без прыпынку ў дарозе. Часам зліпаюцца вочы. Некаторыя на хаду засынаюць. Але раптам гучыць каманда: «Разлік, к бою!» І адкуль толькі бярэцца зноў бадзёрасць, адкуль з'яўляюцца сілы!..»**

**Лісток за лістком, запіс за запісам. Вось ён, гістарычны, знамянальны: «Вечарам, у перадапошні дзень студзеня, перасеклі германскую граніцу. Няўжо гэта яна? Няўжо гэта праўда? Цікава, а дзе граніца будзе праходзіць пасля Перамогі?..»**

**Далей ідуць запісы аб тым, як наш полк перакідваўся з аднаго агнявога рубяжа на другі, з адной пазіцыі на другую, як трымалі шлях на Штаргард, як ішлі на Шчэцін, як грамілі гітлераўскія дывізіі ва Усходняй Памераніі, як бралі Альтдам (гэта на правым беразе Одэра). Лістаю запісы і прыгадваю, як у першай дэкадзе красавіка наш артполк займаў агнявую пазіцыю на Одэры, як фарсіравалі апошні сур'ёзны водны рубеж на шляху да Берліна...**

**У паветры літаральна пахла перамогай. Першага мая. Сонечная, хаця яшчэ і халаднаватая пагода. Мы ў горадзе Альтрупіне. Да Эльбы не больш за два пераходы. Нас чакае сустрэча з саюзнікамі. Але майскае свята і чаканне гістарычнай сустрэчы азмрочаны подлым абстрэлам і разрывам міны. Траіх раніла, чатырох паразіла напавал, ў тым ліку і нашу медсястру. Я зноў, на гэты раз усяго за некалькі дзён да Перамогі, у шпіталі. І вось ціхая майская ноч раптам выбухае страшэнным грукатам, пальбой з усіх відаў зброі. Што гэта? Ці прарвалася і акружыла нас якая-небудзь здзічэлая зусім гітлераўская часць? Не, зусім не тое! У палату ўрываюцца нашы салдаты з баявой аховы і на ўвесь голас радасна крычаць: «Перамога! Капітуляцыя!» У шпіталі і за яго сценамі — мора людской радасці, акіян салдацкага трыумфу. Перамога!**

**Яе першы дзень пачаўся задоўга да світання.**

**І. ПЛАДУНОЎ,**
**дацэнт інстытута замежных моў.**

ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# ВЯРТАННЕ Ў СОРАК ЧАЦВЁРТЫ

ШМАТ якія творы Івана Шамякіна адлюстроўваюць ці закранаюць падзеі Вялікай Айчыннай вайны, узнаўляючы пэўныя моманты барацьбы савецкага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Як прызнаецца пісьменнік у нядаўніх дзённікавых запісах «Карэнні і галіны», ён менш, «чым хто з... калег-франтавікоў, выкарыстаў у творчасці асабіста перажытае на вайне». Далей ён піша: «Подзвіг беларусаў — тэма невычэрпная. Нас, удзельнікаў вайны, незалежна ад таго, дзе хто ваяваў, яна прыцягвала з асаблівай сілай. Цікаўнасць тых, што ідуць за намі, мае іншы змест, іншую эмацыянальную афарбоўку. Многія імкнуцца стаць Быкавымі, Бондаравымі. Але, ведаючы, што паўтарыцца нельга, пачынаюць «сачыняць» вайну. Колькі яе, сачынёнасці!».

Ад «сачынёнасці» І. Шамякін цалкам адмовіўся і ў час працы над новым раманам «Зеніт», змешчаным у першых чатырох нумарах часопіса «Полымя» за сёлетні год. Раман напісаны на аснове ўспамінаў аб перажытым. «Вядома, валодаючы сюжэтам, — гаворыць аўтар, — я ўсё гэта мог сачыніць у лепшым сэнсе гэтага слова, але хацелася *больш прытрымлівацца* дакументальнай асновы, таго, што было ў сапраўднасці. У «Зеніце», у параўнанні з іншымі маімі раманамі, аповесцямі, менш за ўсё творчай фантазіі — там прысутнічае тая рэальнасць, сведкам якой быў я сам і мае баявыя таварышы...»

Хоць падзеі ў «Зеніце» ў асноўным адбываюцца летам сорак чацвёртага, з рэтраспекцый, размоў герояў даведваешся, што многія з іх вайну пачалі 22 чэрвеня 1941 года, абараняючы Мурманск ад налёту варожай авіяцыі. Пад Мурманскам камандзірам гарматы «адкрыў» ваенную старонку ў сваёй біяграфіі і І. Шамякін (пазней ён стаў камсоргам дывізіёна).

Пэўныя аўтабіяграфічныя моманты ўгадваюцца і ў лёсе, характары, паводзінах галоўнага героя рамана Паўла Шыянка, колішняга франтавіка, а цяпер прафесара, загадчыка кафедры адной з вышэйшых навучальных устаноў. Уражанне праўдзівасці, пераканаўчасці ўзмацняе і сама форма падачы фактычнага матэрыялу. Апавяданне вядзецца ад першай асобы. Павел Шыянок, вяртаючыся ў гады агнявога юнацтва, найперш у памятныя яму сорак чацвёрты, не толькі пракручвае плёнку сваёй памяці, але і імкнецца з вышыні свайго сённяшняга вопыту, з пазіцыі пражытага і перажытага даць асэнсаванне даўнім падзеям, а — па сутнасці — падвесці і пэўную рысу пад здзейсненым.

**Гаворка гэтая мае нязмушаны спавядальны характар. І ўвогуле раманная плынь крыху заспакоеная, што таксама апраўдана, бо значных баявых дзеянняў персанажы не вядуць. Так званая «пазіцыйная» вайна, якая пачалася для іх яшчэ ў 1941 годзе, калі за некалькі дзесяткаў кіламетраў ад Мурманска лінія фронту стабілізавалася, працягваецца: «Мы, зенітчыкі, адвыклі ад ваеннай небяспекі. Старaслужачыя зведалі яе толькі ў першыя месяцы вайны. Бязлітасна разбураючы бомбавымі ўдарамі Мурманск, Колу, Мурмашы, Ваенгу, фашысты імкнуліся падавіць зенітныя батарэі — бамбілі і абстрэльвалі іх. Але пасля таго, як мы загналі «юнкерсаў» і «хейнкеляў» на вышыню да чатырох-пяці кіламетраў, рэдка якая шалёная бомба залятала на пазіцыю».**

**Калі падыходзіць да твора з вышыні набытку сучаснай ваеннай прозы — і не толькі беларускай, — дык ён прыцягвае да сябе ўвагу найперш прачытаннем старонак вайны, якія да нядаўняга часу не заўсёды знаходзілі належнае мастакоўскае асэнсаванне. І. Шамякін звярнуўся да тых *глыбінь* народнай памяці, што нясуць у сабе важкі патэнцыял мужнасці і гераізму, магчыма, і не заўсёды прыкметных, як бы схаваных у саміх напластаваннях дзён. Як, скажам, гэта зроблена ў раманах «Кар'ер» Васіля Быкава, «Ачышчэнне» Івана Новікава, «Падзямелле» Міколы Аўрамчыка і шэрагу іншых твораў апошніх гадоў.**

**Дарэчы, Павел Шыянок пакутуе, што ў свой час мог запомніць прозвішчы дарагіх яму людзей, ды не зрабіў гэтага. Цяпер жа, калі пераканаўся: «успаміны — што цёплае мора, яно цягне, з яго не хочацца вылазіць», ён працуе над мемуарамі, наб узнавіць забытае, вярнуць памяць пра людзей, якія заслужылі таго сваім, часта вельмі каротнім жыццём.**

*Тэма народнай памяці* ў рамане — тэма вяртання ў вайну. У «Зеніце» таксама бачны свой «агонь і снег», героі рамана *спасцігаюць* навуку любові і нянавісці, набліжаючы, як могуць, дзень Перамогі. У гэтым сэнсе найбольш прывабным атрымаўся вобраз Паўла Шыянка, які — паўтараю — многае ўвабраў з біяграфіі самога пісьменніка, але які адначасова і персанаж абагулены.

Эвалюцыя Шыянка (у творы яна прасочваецца паступова, псіхалагічна-заглыблена) — сталенне чалавека, які апынуўся ў самай віхуры ваенных падзей. Паказальны эпізод, калі камсорг дывізіёна абавязкова хоча пабачыць у шпіталі байца Ваню Рosліка, якому па звычайнай неасцярожнасці адсекла пальцы і якому камандзір узвода пагражае трыбуналам за наўмыснае калецтва. «Не агрубеў душой» герой І. Шамякіна, а гэта на вайне важна, асабліва, калі ты камандзір, калі адказваеш за людскія лёсы.

Радуецца Шыянок, што «не страціў матчынай дабрыні»: «Здаецца, чатыры гады назад, калі я апынуўся ў суровых умовах Поўначы і «Цімашэнкавай дысцыпліны», пачуцці мае былі больш грубыя. А цяпер я —што тонкі музычны інструмент. На вайне людзі грубеюць, а я, выходзіць, рабіўся рамантыкам. Сорамна прызнацца нават самому сабе. Што мяне шліфавала? Мала бачыў крыві? Тое, што камандаваў незвычайным войскам — дзявочым? Ці сама палітработа, што прымушае выпрацоўваць якасці, якія хочацца перадаць тым, каго выхоўваеш?»

Відаць, не толькі гэтыя, хоць самі па сабе і важныя акалічнасці, «шліфавалі» Паўла Шыянка. Меркаваць падобным чынам даюць мажлівасць і іншыя героі І. Шамякіна. Прыгадаем яго Алеся з аповесці «Гандлярка і паэт». Таксама ідэаліст, таксама рамантык, нават больш — «паэт». Але ўся бяда ў тым, што і ідэалізацыя жыцця Алесем, і рамантычнае ўспрыманне падзей вельмі далёкія ад суровай рэчаіснасці. Алесь па-ранейшаму лунае ў аблоках, калі даўно пара спусціцца на зямлю. Павел жа не адарваны ад жыцця, не будуе «вясёлкавых мастоў».

У артылерыйскіх часцях на Поўначы, як вядома, служыла нямала дзяўчат — былі яны дазіметрыстамі, а ў час Берлінскай аперацыі і пражэктарыстамі, асвойвалі іншыя, зусім не жаночыя прафесіі. Усё давалася нялёгка, тым больш, калі ўлічыць, што гэтая «работа» патрабавала і немалой фізічнай сілы. Невыпадкова, што, як і ў аповесцях «Шлюбная ноч», «Гандлярка і паэт», некаторых іншых сваіх творах, І. Шамякін зноў піша пра жанчыну на вайне.

Найперш трэба адзначыць вобраз Лікі Іваніставай, фінкі па нацыянальнасці, якая трапіла ў дывізіён тады, калі ён апынуўся пад Петразаводскам. З'яўленне дзяўчыны на фронце не засталося незаўважаным. І не толькі таму, што многіх прывабіла яе прыгажосць. Шыянок і іншыя байцы не могуць дараваць Іваніставай яе «інтэлігентнасці», асабліва таго, што вучылася на настаўніцу ў Хельсінкі... У падобным стаўленні да дзяўчыны, безумоўна, сказваецца сама суровасць ваенных абставін, якая, хацелі таго людзі ці не, у многім рабіла больш грубымі іхнія душы. Не заўсёды мог пераадолець гэта і Павел Шыянок. Аўтар не толькі не адыходзіць ад праўды жыццёвай, але прытрымліваецца і праўды мастацкай, кіруючыся самой логікай развіцця характару героя.

Лірычна прасветленыя, надзіва паэтычныя старонкі рамана, дзе расказваецца, як і Павел, нягледзячы на сваю «непрыступнасць», паступова адкрывае ў Іваніставай цікавага чалавека. Напачатку, вядома, яго вабіць непадобнасць дзяўчыны на іншых, прыгажосць яе. Але хутка Шыянок адкрывае для сябе і духоўную, душэўную вабнасць Лікі. Майстра сюжэта, І. Шамякін многае з жыцця Іваніставай не адразу раскрывае для нас. Толькі з цягам часу высвятляецца, што бацька яе — камандзір Чырвонай Арміі, муж — салдат, які ваюе, а ў тыле застаўся сын. Гэтая «загадкавасць» у лёсе гераіні па-свойму працуе на сюжэт, у добрым сэнсе ўзмацняе напружанасць дзеяння.

Лёс Лікі Іваніставай — толькі адзін з жаночых лёсаў, раскрытых і пададзеных пісьменнікам каларытна і шматгранна. Колькі іх, дзяўчат вайны, праходзіць перад табой, калі чытаеш раман!..

Вяртанне ў агонь — адначасова і вяртанне ў вечнасць, бо — гэтая думка праходзіць скразной ніццю праз увесь раман — перамогу набліжалі не толькі тыя, хто ўдастоіўся высокіх урадавых узнагарод, а і тыя, хто часам перажыў толькі свой першы і адначасова апошні бой, і пакуль будзем памятаць іх, жыццё не спыніць свайго вечнага руху наперад.

Ліда Асташка і Ванда Жмур, Жэня Ігнацьева і Глаша Васіленкава, Любоў Пахрыцына і Таня Балашова... Гэты спіс можна працягваць, называючы імёны абаронцаў Поўначы ад фашысцкіх захопнікаў — тых, хто дайшоў да Одэра і хто загінуў. Воблікі іх, быццам на запаволенай кінастужцы, ажываюць у памяці Паўла Шыянка. Мяне ж, чытача, не пакідае адчуванне несправядлівасці, што наша літаратура ўсё ж па-ранейшаму мала, не з такой паслядоўнасцю і глыбінёй, як таго хацелася б, расказвае пра жанчын на вайне. Канечне, няблага, што з'явіліся дакументальныя запісы С. Алексіевіч, але ж ці трэба адмаўляць значэнне твораў мастацкіх? Якраз у гэтым плане нямала робіць І. Шамякін, пачынаючы са свайго першага рамана «Глыбокая плынь».

**Услухаемся ў споведзь Паўла Шыянка, калі ён прыгадвае, як хавалі Ліду Асташку, і адчуем, што гэта не толькі яго памяць, яго боль, а і памяць, боль усіх, хто вярнуўся з вайны: «Да майго болю далучаўся нейкі незвычайны смутак ад таго, што ніколі не народзяцца дзеці — яе дзеці. Не, я ні разу не падумаў — НАШЫ, такая думка здавалася абразлівай для яе памяці. А вось яе дзеці, маленькія, беленькія, як анёлачкі, паўставалі перад вачамі наяве, з'яўляліся ў сне».**

**Яшчэ раз успомнім эпізод, дзе расказваецца пра Глашу Васіленкаву. Болем працінаюць сэрца словы, якія кідае яна Шыянку і ўсім «маралістам» дывізіёна: «Ханжы вы! За чыны свае баяліся. Спалохаліся, што падумаюць пра вашу работу — яшчэ адна цяжарнасць! Дык усё адно ж начальству далажылі. Што вы так баіцеся яе, нашай цяжарнасці? Колькі вас палягло! Мільёны. Колькі нам раджаць трэба, каб папоўніць краіну салдатамі, людзьмі. Народ жыць павінен! Жыць!».**

**Гэта таксама праўда вайны, якая патрабуе такога ж глыбокага мастакоўскага асэнсавання, *як і тое, што адбывалася* на перадавой, у партызанскіх атрадах, партыйным і камсамольскім падполлі. І. Шамякін адкрывае гэтую праўду, застаючыся, як і ў большасці сваіх твораў, першапраходцам у вырашэнні складаных маральна-этычных задач, вытлумачвае вытокі маральнага духу народа, выяўляе тыя ўнутраныя спружыны, якія нават у самых суровых, бесчалавечных, правільней — антычалавечных умовах дапамагалі чалавеку не толькі выжыць, але і захаваць *лепшыя свае пачуцці*.**

Вайна, якая стала суровым выпрабаваннем для савецкіх людзей, па-свойму патрабавала адказу на спаконвечнае, традыцыйнае пытанне: быць ці не быць? «Быць — значыцца, застацца патрыётам Радзімы, аддаць за яе вызваленне, калі спатрэбіцца, жыццё. Праўда, што тычыцца фронту, дык на перадавую, у рэгулярныя часці траплялі ў асноўным тыя, хто гатовы быў з гонарам выконваць прысягу.

Але здаралася, што байцы, камандзіры, якія ў баях паказвалі сябе смелымі і рашучымі, не вытрымлівалі экзамену на маральнасць, калі справа тычылася ўзаемаадносін з іншымі людзьмі. Так нярэдка было ў часцях, дзе служылі жанчыны. А гэта — скалечаныя лёсы, якіх на вайне і так хапала, страчаная вера ва ўсё добрае і сумленнае. І тут І. Шамякін тактоўна вырашае канфліктныя сітуацыі, адначасова туга звязваючы вузлы чалавечых лёсаў.

У рамане падзеі вайны ўвесь час перакрыжоўваюцца з днём сённяшнім. Мастацкі прыём, якім І. Шамякін валодае цудоўна (успомнім такія вядомыя яго раманы, як «Сэрца на далоні», «Вазьму твой боль»). Павел Шыянок таксама іншымі вачамі глядзіць на сябе сённяшняга, прыгадваючы перажытае. Што ідэалам маладосці ён не здрадзіў, *захаваў* вернасць франтавому брацтву — няма сумнення. Сённяшні Шыянок і Шыянок той, ваенны — не дзве *розныя* асобы. Бытавая ўладкаванасць, прэстыжная работа, узаемаразуменне ў сям'і не расслабілі героя ні душэўна, ні маральна. Ён і цяпер «не агрубеў душой», для блізкіх застаўся тым жа Паўлікам, як называлі яго часам на фронце, парушаючы субардынацыю, дзяўчаты.

**Усё гэта ўзвышае героя ў вачах чытача, выклікае да яго павагу. Разам з тым, не магу не сказаць, што пры паказе Шыянка сённяшняга дзе-нідзе бачыцца спроба яго ідэалізаваць. Канечне, калі герою часта сніцца адзін і той жа страшны сон, гэта зразумела: назаўсёды яму ўрэзалася ў памяць, як у вызваленым Петразаводску фашысты разбамбілі эшалон з жанчынамі і дзецьмі! Але калі Шыянок, уражаны смерцю Індзіры Гандзі, прыходзіць на кафедру і гаворыць: «Дзеці!.. Забілі маці. Устаньце», а перад гэтым залішне нервова паводзіць сябе з саслужыўцамі, то ў гэта ўжо цяжка паверыць. Безумоўна, душа, спакутаваная на вайне, не можа ўспрымаць спакойна тое трагічнае, што здарылася за шмат тысяч кіламетраў. І ўсё ж, мне здаецца, менавіта гэты эпізод патрабуе большай псіхалагічнай дакладнасці, каб не адчувалася нацяжкі, некаторай штучнасці, можа, нават тэатральнасці ў паводзінах Шыянка.**

Апошнія старонкі рамана — своеасаблівы эпілог. І. Шамякін свядома прытрымліваецца прынцыпу, характэрнага для мемуарных твораў. Тут расказваецца пра лёс персанажаў, якія засталіся жыць. На Краснай плошчы, ля магілы Невядомага салдата сустракаюцца былыя нампаліт дывізіёна Тужнікаў, камандзір аддзялення Маслоўскі, Ванда Жмур, Глаша Васіленкава, якая стала жонкай Маслоўскага, і іншыя. Збіраюцца разам, каб успомніць загінуўшых сяброў і тых, хто не змог прыехаць на сустрэчу. Як і бывае ў час падобных спатканняў, вайна зноў напамінае аб сабе. Урываецца яна і ў сэрца Паўла Іванавіча Шыянка. Радасцю, што можа бачыць сяброў па зброі. І болем, пякельным болем, што многія не дачакаліся вясны Перамогі.

У гэты сонечны мірны дзень нечакана гучыць яго голас: «Аляксейкіна! Яе прозвішча Аляксейкіна!» Шыянок у думках там, на Одэры, дзе перад боем пазнаёміўся з дзяўчынай. Кароткай была гэтая сустрэча і адзінай. Загінула Надзя ў апошнюю ваенную ноч, на самых подступах да Берліна. Ён быў забыўся яе прозвішча — запісаць не паспеў. І вось цяпер нарэшце ўспомніў.

Памяццю аб тых, хто не вярнуўся з вайны, і аб тых, хто вынес на сваіх плячах цяжар яе нечалавечых выпрабаванняў, напоўнены новы раман І. Шамякіна «Зеніт» — яшчэ адзін у шэрагу твораў беларускай ваеннай прозы.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ІГРАЮЧЫ НА СУРМЕ БАРАВОЙ...




За восем кіламетраў ад Берліна ў брацкай магіле пахаваны паэт Мікола Сурначоў. Загінуў ён 20 красавіка 1945 года на подступах да фашысцкага логава, так і не паспеўшы ўбачыць сваю першую кнігу. Любоўна сабраныя сябрамі, творы М. Сурначова прыйшлі да чытача пасля вайны, калі былі выдадзены зборнікі «На сурмах баравых» (1946) і «Барвовая зара» (1959), а ў перакладзе на рускую мову «Адна любоў» (1972). Цяпер вось — кніга «Акопны спеў», укладзеная П. Пранузам.

Зборнік дае найбольш поўнае ўяўленне не толькі аб творчасці М. Сурначова, але і аб тым, якім чалавекам ён быў, як ставіўся да паэзіі і жыцця. Цікавасць уяўляюць сведчанні яго сяброў К. Кірэенкі («Мікола Сурначоў»), А. Вялюгіна («Песня паўшага друга»), Р. Бярозкіна («Таварыш загінуў на вайне»), Д. Кавалёва («Адна любоў»), П. Пранузы («Такі ён быў»), М. Аўрамчыка («Недаспяваная песня») і іншых, а таксама вытрымкі з франтавых лістоў, якія захаваліся ў П. Пранузы.

Змешчаны матэрыялы, у якіх асэнсоўваецца паэзія М. Сурначова, вызначаецца яе месца ў сучаснай беларускай літаратуры — «Да ўсесаюзнага чытача» В. Іпатавай, «Роднае, вечнае...» В. Бечыка, «Балада мужнасці» В. Коўтун, «На сурмах баравых» М. Даніленкі, гаворыцца аб блізкіх людзях паэта. Прачулыя паэтычныя радкі М. Сурначову адрасуюць М. Аўрамчык, А. Пысін, М. Губернатараў, Я. Янішчыц, Ю. Свірка.

**В. ЗАКРЭУСКІ.**

# З ДАЛЁКІХ ДЗЁН ВЯСНЫ




У адным з вершаў Алесь Жаўрук быццам прадбачыў, што ў барацьбе за свабоду і будучыню загіне і сам:

**Няхай мы спаткаемся**
**З куляй раптоўнай**
**У першыя тыдні вясны,**
**Сябры перамогуць**
**У бойцы ўсё роўна,**
**І сына ўзгадуюць яны.**

23 жніўня 1942 года ваенны карэспандэнт А. Жаўрук, ратуючы параненую супрацоўніцу, быў паранены і сам. Перад гэтым атрымаў ліст ад жонкі: нарадзіўся сын. Праз некалькі гадзін паэта не стала.

Воблік Жаўрука — паэта,

КРЫТЫКА БІБЛІЯГРАФІЯ

# ЧАС ГАЛОЎНАГА ЭКЗАМЕНУ

*Л. Гаўрылкін. Застаюся з табой. Раман. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1986.*

Прызнаемся шчыра: наша літаратура сёння не можа пахваліцца творамі, дзе б пачатак перабудовы сацыяльна-эканамічнага жыцця краіны знайшоў адпаведнае эстэтычна-мастацкае ўвасабленне. Аднак нельга забываць, што любое рэвалюцыйнае пераўтварэнне не можа пачацца само па сабе ці толькі па жаданні адной або некалькіх асоб, яно абавязкова папярэдне выспявае ў грамадстве, як у сферы сацыяльна-эканамічнай, так і ў сферы духоўнай. І таму зразумела, што літаратурны працэс апошніх гадоў не мог не закрануць гэтых важных праблем нашага жыцця.

Новы раман Леаніда Гаўрылкіна «Застаюся з табой» можна аднесці да твораў, у якіх, незалежна ад таго, ставіў ці не аўтар перад сабой такую задачу, мы бачым спробу адлюстраваць працэс усведамлення неабходнасці перамен у розных сацыяльных групах грамадства. Пачаўшы пісаць раман задоўга да сённяшніх грамадскіх зрухаў, Л. Гаўрылкін, як нам здаецца, свядома спяшаўся хутчэй надрукаваць яго. Твор выдадзены асобнай кнігай без так званага «часопіснага варыянта», без папярэдняй чытацкай апрабацыі.

У рамане тры галоўныя персанажы. Узаемаадносіны паміж імі, жыццёвыя выпрабаванні, што выпалі на долю кожнага з іх, «працуюць» на асноўную думку твора: так далей жыць нельга, патрэбны сур'ёзныя перамены. Паказальна, што пісьменнік засяроджвае ўвагу перш за ўсё на прадстаўніках найбольш вялікіх сацыяльных груп грамадства: Іван Алесіч — рабочы, Валерый Скачкоў — інжынер, Ала Пятроўна, яго жонка,— настаўніца. І кожны герой з часам прыходзіць да пытання: **як** жыць далей? І ад таго, які маральны выбар ён зробіць, залежыць і яго далейшы лёс, і лёс усіх, хто побач з ім. «Відаць, у кожнага чалавека настае ў жыцці такі час,— дзеліцца сваім самым набалелым інжынер Валерый Скачкоў,— калі ён павінен вытрымаць свой галоўны экзамен. Дык лепей позна, чым ніколі».

Упарта шукае сваё сапраўднае месца ў жыцці малады рабочы Іван Алесіч. Мы знаёмімся з ім, калі ён знаходзіцца ў лячэбна-працоўным прафілакторыі строгага рэжыму, куды яго накіравалі за сістэматычнае п'янства. Пісьменнік пераканаўча паказвае, як цяжка Алесічу пераадолець хваробу. У бяссонныя ночы напярэдадні вяртання дамоў герой абдумвае сваё жыццё, хоча хутчэй вярнуцца да жонкі, да сына, пачаць усё нанова. А калі надышла доўгачаканая хвіліна, жонка яго не прыняла, бо не змагла забыць мінулае. Пакрыўджаны Алесіч не вытрымлівае, і ўсё пачынаецца спачатку.

Які цяжкі працэс загартоўкі волі, характару, як нялёгка пераадолець сябе і як лёгка разбурыць усё, пайсці па звыклай, зваблівай сцяжыне... Л. Гаўрылкін аналізуе кожны зрух у душы героя, кожнае адценне яго перажыванняў. Мы многа ў апошнія гады гаварылі і пісалі пра барацьбу з п'янствам і алкагалізмам, прыдумвалі розныя меры, забароны, кампаніі. Пісьменнік жа імкнецца давесці, што галоўны фронт барацьбы з гэтым злом — псіхалагічны, і поспех залежыць ад многіх фактараў. Чытаеш раман, сочыш за рознымі перыпетыямі жыцця Івана Алесіча, і міжволі ўзнікае спачуванне і трывога за яго лёс: толькі б ён не сарваўся, толькі б нішто не парушыла спакой у яго душы.

Здавалася б, Алесіч знаходзіць сваё месца ў брыгадзе бурыльшчыкаў, якая шукае новыя радовішчы нафты. Але зноў трывога: да яго прыйшло сапраўднае каханне, і ўсё складваецца зусім не так, як яму хацелася. Каця, дзяўчына, якую ён пакахаў, вымушана паехаць з пасёлка бурыльшчыкаў. Ізноў зрыў, на гэты раз, здаецца,— непапраўны. Нялёгкі быў шлях да тых дзён, калі нарэшце ў Івана Алесіча ўсё быццам бы наладзілася... І раптам — трагічны фінал. Але пісьменніку верыш: такі чалавек, як Іван Алесіч, не мог не кінуцца ратаваць ад агню буравую, хаця добра ведаў, чым гэта яму пагражае. У агні аварыі, якой магло не быць, каб не звычайная нядбайнасць і не патрабаванне «гнаць план» любой цаной, Алесіч загінуў.

Адкуль жа з'яўляюцца лянота душы, абыякавасць да жыцця, нядбайнасць у выкананні сваіх службовых абавязкаў, якая можа прывесці да такіх трагічных вынікаў? Вядома, усё гэта — недахопы і выхавання ўвогуле, і, як імкнецца давесці аўтар рамана «Застаюся з табой», выхавання ў школе. Цяжка прыпомніць такі крытычны падыход у нашай літаратуры да становішча сучаснай школы, як у рамане Л. Гаўрылкіна. Уяўляю воклічы настаўнікаў у час, скажам, чытацкіх канферэнцый: «Гэта няпраўда!», «Такога не можа быць!», «Аўтар кінуў цень на савецкую школу!» і г. д.

Аднак Алу Пятроўну, адну з гераінь рамана, якая працуе ў школе райцэнтра, куды яна пераехала са сталічнага горада, неўзабаве ахоплівае адчай, жаданне кінуць усё, збегчы. «Працэнтаманія» і раўнадушша, кругавая парука паміж настаўнікамі, схаванае хабарніцтва, парушэнне элементарных дэмакратычных норм жыцця, — усімі гэтымі тыповымі для пэўнага перыяду хваробамі хварэе ўвесь педагагічны калектыў школы. Калектыў, вядома, невялікі, таму хваробы працякаюць вастрэй, адчувальней, небяспечней, бо ўсе іх праявы бачаць вучні, тыя, каму жыць і працаваць заўтра. Вобраз Антаніны Сяргееўны, дырэктара школы, тыповы не толькі для настаўніцкіх калектываў. Для дырэктаркі галоўнае — не якасць, не ўзровень ведаў вучняў, а тое, што пра школу будуць гаварыць у раёна, у райкоме, у вобласці. А гаварыць і меркаваць часта было прынята па паказчыках, па лічбах і працэнтах, і таму, калі настаўніца ставіць «двойку», значыць, яна як педагог прафесійна непадрыхтаваная. Атмасфера хлусні і крывадушша выклікае абурэнне ў Алы Пятроўны, пісьменнік падрабязна прасочвае, як ёй цяжка застацца сабой, не пайсці на кампраміс са сваім сумленнем.

Сюжэтныя лініі Алесіча і Алы Пятроўны звязвае ў рамане вобраз Валерыя Скачкова. Яму, інжынеру-нафтавіку, надакучыла чыноўніцкая праца ў сталіцы, і ён вырашыў пакінуць сваю знешне прэстыжную пасаду, кватэру з усімі выгодамі і паехаць туды, дзе непасрэдна здабываюць нафту. «Так сёння не бывае»,— прадбачу першае рэагаванне скептычнага чытача. Тым не меней аўтар пераконвае, што герой здольны на гэта, такое рашэнне — вынік напружанага, пакутлівага роздуму. «Атрымаў вышэйшую адукацыю, канкрэтную спецыяльнасць,— разважае Скачкоў.— А што зрабіў? Стараўся ўзняцца над шэрым жыццём. Думаў, дасягнуў гэтага, зрабіўшы кар'еру. Не заўважыў, як страціў самастойнасць, сябе. Не, сябе яшчэ не страціў...»

Згодна задуме аўтара, характар Валерыя Скачкова павінен быў раскрыцца на новым месцы працы, дзе ён узначаліў упраўленне нафтаздабычы. Скачкоў прыязджае ў гарадок тады, калі ўпраўленне, якое год-два назад было самым лепшым, рэгулярна не выконвае план. Праз некаторы час Скачкоў дамогся мэты, упраўленне выйшла на планавыя паказчыкі. А як? Якім чынам? І тут, на нашу думку, пісьменнік не здолеў адказаць на гэтыя пытанні, застаўся ў палоне публіцыстычнай плыні. Канфліктная сітуацыя, у якой апынуўся герой рамана, цікавая сваёй вастрынёй, надзённасцю, у ёй — тыповыя рысы многіх канфліктных супярэчнасцей мінулых гадоў.

Можна зразумець пісьменніка, які, добра ведаючы жыццёвы матэрыял, захапіўся сутнасцю праблемы, публіцыстычна завастрыў яе. І ўсё ж нельга не заўважыць, што вобразу Валерыя Скачкова не хапае мастацкага асэнсавання, паказу не публіцыстычнымі, а мастацкімі сродкамі, не хапае той паўнаты, якая ёсць у вобразах Івана Алесіча і Алы Пятроўны. Многаму, здзейсненаму Скачковым, верыш, але хацелася б не толькі паверыць, але разам з героем і пахваляваца, перахварэць, перажыць, паспачуваць яму і г. д. Развіццё і раскрыццё сучаснага становўчага героя не можа ісці толькі па адной лініі — далей і вышэй, як яшчэ нядаўна мерка-

З ПОШТЫ «ЛІМА»

# ПЕСНЯ БРАТЭРСТВА

Не прайшло і гадзіны, як закончылася наша размова з Аннакулі Маметкуліевым. Каб не ведаў пра яго, то нізашто не прызнаў бы ў гэтым чалавеку старэйшага работніка ашхабадскага выдавецтва «Магарыф». І рухавасць, і энергія, і ледзьве не юнацкі задор у вырашэнні тых альбо іншых клопатаў. Вось і паспрабуй вызначыць, колькі ж год гэтаму чалавеку... А яго працоўная біяграфія пачалася яшчэ задоўга перад вайной.

— Аннакулі Маметкуліеў быў першым маім настаўнікам у журналістыцы,—прыпамінае заслужаны дзеяч культуры Туркменскай ССР Ашыр Назараў. — І ў маладыя гады, калі мы ўсе не шкадавалі ног і часу дзеля важкага факта, дзеля некалькіх радкоў у газету, Аннакулі здзіўляў сваёй энергіяй, сваім запалам, гарэннем. Менавіта ў яго мы вучыліся злабадзённасці, актуальнасці, уменню шукаць важкі факт.

...І вось сёння, праз столькі гадоў, ледзьве не праз паўвека з тых дзён успомненых пісьменнікам А. Назаравым, гутарым з ветэранам журналісцкага цэха Туркменістана. У гаворцы сваёй звяртаемся да гадоў ваеннага ліхалецця.

У 1942 годзе на Заходнім фронце выходзіла газета «Красноармейская правда». З гітлераўскімі захопнікамі змагалася шмат нацыянальных фарміраванняў, у складзе палкоў, дывізій таксама ваявалі воіны нацыянальнасцей Сярэдняй Азіі. Таму і франтавая газета «Красноармейская правда» выходзіла на некалькіх мовах. У складзе рэдакцыі туркменскага выдання быў і старшы лейтэнант А. Маметкуліеў. У гэтай жа газеце на той час служылі Аляксандр Твардоўскі, пісьменнік Яўген Вераб'ёў, мастак Арэст Вярэйскі... Карэспандэнты не вылазілі з перадавой, былі сведкамі і ўдзельнікамі масавага гераізму савецкіх людзей.

Ваенная, творчая біяграфія туркменскага журналіста мае цесную сувязь з беларускім краем, а дакладней — з Віцебшчынай. Справа ў тым, што яшчэ пад час працы ў франтавым друку ўвагу Маметкуліева прыкаваў лёс Канстанціна Заслонава яго гераічныя ўчынкі. Вынікам такой увагі стала паэма туркменскага літаратара.

Са станоўчай рэцэнзіяй на кнігу франтавіка ў час вайны выступіў у туркменскім друку народны паэт рэспублікі Аман Кекілаў. Вядомы пісьменнік на старонках газеты «Сазет Туркменістан» параўноўваў твор А. Маметкуліева па сіле патрыятызму з лепшымі здабыткамі нацыянальнай паэзіі. Паэма знайшла свайго чытача, як, між іншым, і другія творы паэта і журналіста А. Маметкуліева. У час святкавання 40-годдзя Вялікай Перамогі туркменскае выдавецтва ажыццявіла перавыданне франтавой паэзіі Аннакулі-ага. «Песня салдата» — так называны быў зборнік вершаў і паэм.

Франтавыя сцежкі-дарожкі А. Маметкуліева праляглі і це-

чалавека, грамадзяніна — паўстае са старонак кнігі «Крывёю сэрца» (укладанне і прадмова А. Зарыцкага). Асноўны змест зборніка склалі творы, аб'яднаныя ў раздзелы «Дняпро выходзіць з берагоў», «З франтавога блакнота», «Паэмы для дзяцей, напісаныя разам з паэтам Андрэем Ушаковым». У асобны раздзел «Жыццёвае поле» ўвайшлі ўспаміны тых, хто добра ведаў А. Жаўрука, — яго жонкі Л. Сінічкінай «Мой дарагі Алесь», М. Скрыпкі «Калі расцвіталі не толькі сады», рускага паэта, перакладчыка і крытыка Г. Левіна «Дружба — без сустрэч», украінскага паэта М. Упеніка «Пра майго беларускага сябра» і іншых.

Воблік А. Жаўрука дапаўняе артыкул-прадмова А. Зарыцкага «Голас з далёкіх дзён вясны».

**А. КУНЦЭВІЧ.**

---

валі некаторыя тэарэтыкі і крытыкі літаратуры. Сёння сучасны герой немагчымы без адлюстравання ў ім, у яго душы, у яго лёсе «ўсіх тых супярэчнасцей, якія маюць месца ў жыцці» (У. І. Ленін).

Пры больш падрабязным разглядзе варта было б паразважаць і аб тым, што нясуць сваёй жыццёвай гісторыяй і некаторыя іншыя персанажы. Найбольш каларытныя і запамічальныя з іх — Тарлан Мустафаеў, брыгадзір рамонтнікаў упраўлення нафтаздабычы, Балыш — былы начальнік упраўлення, а цяпер супрацоўнік саюзнага міністэрства, Працько — геолаг упраўлення. Пасля таго, як прачытаеш раман, доўга стаіць перад вачыма постаць Параскі, маці Івана Алесіча... Нібыта ўвачавідкі бачыш яе на тым беразе возера, куды яна штодзень прыходзіць з надзеяй убачыць жывога сына, які любіў, прыехаўшы ў вёску, пасядзець каля вады з вудай... Не вытрымала душа Параскі жахлівай весткі, памутнеў яе розум. Яна хоча пайсці ў сельсавет, прасіць, каб «закрылі» нафту, бо яна гарыць... «Цяпер усё закрываюць, што гарыць,— кажа яна Скачкову.— Баяцца за зямлю. Успыхне, а куды людзям дзявацца?» У прарочых словах няшчаснай жанчыны — глыбокі сэнс, і, будзем спадзявацца, не адзін Скачкоў задумваецца сёння, як далей жыць і працаваць на зямлі, што трэба рабіць, каб не ўспыхнула яна, каб захаваць і яе і людзей на ёй.

Празаічныя творы Л. Гаўрылкіна,— а ў яго творчым актыве апавяданні, аповесці, п'есы, тры раманы,— вылучае вернасць аўтара нялёгкай сучаснай тэме, вернасць роднай Гомельшчыне, Палессю. І поспех спадарожнічае пісьменніку там, дзе спроба даследавання канкрэтных праблем узнімаецца да сапраўды мастацкіх абагульненняў.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

---

**раз Беларусь. За ратныя подзвігі афіцэр-палітработнік, які ваяваў у складзе 3-га Беларускага фронту, узнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны I і II ступені, медалём «За адвагу»., Зараз ветэран вайны і працы на заслужаным адпачынку. Хаця гэта так хіба што на паперы, па дакументах.., А на справе Аннакулі-ага і зараз у працоўным страі.**

**Не раз ужо ветэрана выбіралі сакратаром партыйнай арганізацыі выдавецтва. А знаходзіцца вольная хвіліна, то франтавы журналіст бярэцца за яшчэ адзін важкі клопат—напісанне ўспамінаў. Будуць у іх і старонкі, прысвечаныя Беларусі, баям за яе вызваленне.**

**А. КАРЛЮКЕВІЧ.**

г. Ашхабад.

---

## НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# Адзін раз пабачыць...

Яны стаялі на скрыжаванні вуліц вялікага горада, гаварылі па-нямецку:

— Эльза, дзе мы? — ледзь варочаючы языком, пытаўся пажылы мужчына ў жанчыны, якая падтрымлівала яго пад руку.

— Не ведаю, дарагі Рудзі,— заклапочана адказвала яму жанчына. — Не ведаю. Ведаю толькі, што мы ў Ленінградзе. Дзе наша гасцініца, не ўяўляю сабе...

— І я. Калі ехалі на Піскароўскія могілкі — ведаў. І калі вярталіся з могілак — ведаў. А пасля рэстарана — заблытаўся.

— Табе не трэба было столькі піць...

— Можа, і твая праўда. Але я не мог. Могілкі мяне надзвычай усхвалявалі. Я ўбачыў і паверыў у тое, у што не верыў да гэтага. Гэта жахліва, Эльза. Горы трупаў... У мяне гарыць душа. Мне цяжка думаць, што гэтае злачынства зрабілі мае суайчыннікі. А я, дурань, іх бараніў. Казаў, немцы на такое не здольны. Мне было сорамна глядзець у вочы рускім людзям. Кожны, хто прыходзіць на могілкі, ведае — іх забілі немцы. Ганьба...

— Супакойся, Рудзі. Табе трэба хутчэй легчы ў ложак. Але дзе тая гасцініца? Каго спытаць? Мы з табой не ведаем ні слова па-руску...

— Пачакай. Мы ў якой гасцініцы спыніліся?

— «Масква»...

Ён пахіснуўся, жанчына яго падтрымала.

— А ты ж казала, у Ленінградзе...

— Ленінград — гэта горад, а «Масква» — гасцініца.

— Тады трэба спытаць, дзе гасцініца «Масква».

— Пытала ўжо. Але нічога не зразумела. Хоць бы таксі якое...

Іх гамонку пачуў прахожы мужчына з жанчынай. Яны спыніліся непадалёк.

— Ім трэба дапамагчы, Дорыс, — сказаў прахожы мужчына. — Раніцой я бачыў іх у нашай гасцініцы. Яны не ведаюць, як ім да яе дабрацца.

Яны падышлі да разгубленай пары:

— Прабачце, — сказаў мужчына па-нямецку. — Я пачуў, што вы не ведаеце, дзе ваша гасцініца...

— Я... Я... — узрадаваліся разам Рудзі і Эльза...

— Мы з жонкай жывём таксама ў «Маскве»...

— О, Рудзі, нам вельмі пашанцавала. Гэта мой муж... Ён крыху...

— Рудольф Гефлер... — падцягнуўшыся, прадставіўся муж.

— А я Савелій Барысенка. Мая жонка Дорыс...

— Прабачце. Я не зусім у форме. Са мной гэта рэдка здараецца. Я шафёр па спецыяльнасці... Мы турысты з Штутгарта. Упершыню ў Савецкім Саюзе...

— І мы турысты.

Барысенка ўбачыў зялёны агеньчык таксі, сышоў з тратуара і падняў руку...

У таксі Рудольф усё прасіў прабачэння і апраўдваўся за сваю ўпартую недаверлівасць.

— Мне гаварылі не раз пра зверствы і злачынствы нямецкай арміі. Я не верыў. Я нават бараніў нашых ваяк. Немцы не могуць такое зрабіць. Гэта прапаганда. А вось пабачыў...

— Рудзі вельмі ўражлівы, — растлумачыла жонка.

— Гэта злачынства нельга дараваць, — хваляваўся Рудольф.

— А пры чым тут вы? — сказаў Барысенка. — Колькі вам было ў час вайны?

— Я быў хлопчыкам. Але...

У холе гасцініцы Рудольф запрасіў Барысенку і Дорыс у бар.

— Я павінен вам аддзячыць. І ўвогуле, мне вельмі прыемна з вамі пагаварыць.

За столікам Рудольф хацеў заказаць штосьці моцнае, але Барысенка запярэчыў:

— Я не п'ю. Будзем піць чай або каву. Як жанчыны?

— Табе, Рудзі, якраз не пашкодзіць шклянка кавы, — заўважыла жонка.

За столікам бліжэй пазнаёміліся.

Барысенка запісаў у блакноце немца свой адрас...

Рудольф прачытаў і са здзіўленнем зірнуў на Савелія.

— Вы не з Савецкага Саюза? Я думаў, вы рускі.

— Так, я рускі, а дакладней — беларус. А мая жонка англічанка. Жывём у Англіі ў горадзе Кардзіфе...

Цяпер толькі Рудольф спахапіўся, што яго новы знаёмы гаворыць па-нямецку.

— Вы добра гаворыце па-нямецку. Вывучалі, калі не сакрэт...

Савелій Гаўрылавіч памаўчаў і ўздыхнуў:

— Гора навучыла. Мне не было і семнаццаці гадоў, калі ў нашу вёску Баханы на Магілёўшчыне прыйшлі немцы. Шмат якіх юнакоў, сярод іх і мяне, пагналі на станцыю, пагрузілі ў таварныя вагоны з кратамі і пад канвоем завезлі ў Германію. На рынку ў невялічкім горадзе Радэфорвальдзе гестапавец прадаў мяне баўэру за 30 марак. За другіх ён узяў больш, а я быў худы і знясілены, і баўэр Герман Рохальд болей не даў.

— Як гэта вас прадалі? — здзівіліся Эльза і Рудольф.

— А так, як прадаюць жывёліну на рынку. Толькі жывёліну гаспадар корміць, поіць. Я еў у баўэра тое, што елі свінні, а працаваў ад світанку да позняй ночы.

— Як многа чаго мы не ведаем, Эльза, — сказаў Рудольф. — І гэты чалавек гаворыць з намі па-сяброўску...

— Пры чым тут вы? Вы не нацысты... У Германа Рохальда на фронце было два сыны. Адзін сын Фрыц прыязджаў летам 1943 года ў адпачынак. Ён ваяваў пад Ленінградам. У тым, што вы бачылі на Піскароўскіх могілках, вінаваты і ён. З мяне ён здзекаваўся, як мог. Аднойчы нават намерыўся застрэліць мяне. Фрау Рохальд не дазволіла, а бацька растлумачыў сыну: «Я заплаціў за яго 30 марак».

— Не ўсе былі нацыстамі,— працягваў Барысенка. — Па суседстве з Рохальдам жыў баўэр Курт Шміт. Кульгавы. У армію яго не ўзялі. Фрау Рохальд забараняла мне з ім размаўляць. «Ён не жадае нам перамогі», — сказала. Курт сапраўды не жадаў Гітлеру перамогі. Пры сустрэчы ён расказваў мне, што робіцца на фронце, гаварыў пра непазбежнасць краху фашысцкай Германіі.

— Паслухайце, Савелій, прыязджайце з жонкай да нас у Штутгарт. Я шафёр. Ёсць машына. Паедзем з вамі ў Радэфорвальд, да вашага былога гаспадара...

— Дзякуй, Рудольф. Мяне не цягне туды, дзе я чатыры гады быў нявольнікам. З вялікай прыемнасцю сустрэўся б з Куртам Шмітам. Але наўрад ці ён жывы. Прайшло больш за сорак гадоў. Ды і Рохальд, відаць, не жыве...

— У Англію вы трапілі з Германіі? — пацікавілася Эльза.

— Трапіў — не тое слова. Мяне проста абдурылі, далі падпісаць нейкую паперыну і павезлі не на Радзіму, як я прасіў, а ў Англію — працаваць на шахце. Ім тады людзі былі патрэбны. Давялося працаваць. А здароўе ў мяне было падарвана няволяй. Дзякуй Дорыс, яна мяне фактычна ўратавала ад смерці. Яна медык. Працавала ў той жа фірме. Яна змагла пераканаць гаспадароў, што ў шахце працаваць мне небяспечна, бо слабае вельмі здароўе. Мяне перавялі ў ліцейны цэх, да печаў, дзе давялося працаваць да канца тэрміну кантракта.

Рудольф спагадліва слухаў Савелія, а потым сказаў, звяртаючыся да яго жонкі:

— Вы, Дорыс, бачу я, сардэчная жанчына, што я не магу сказаць пра ўсіх англічанак.

— Вы многіх ведалі?

— Пакуль што толькі адну, і то па тэлебачанні.

— Каго гэта?

— Маргарэт Тэтчэр. Вонкава нібы прывабная жанчына. Але як яна магла сказаць такое: «Я не ўяўляю сабе свету без ядзернай зброі»? Што ў яе, дзяцей няма? Дзе яе жаночая дабрата?

— Яна паўтарае словы Рэйгана, — сказаў Савелій. — У іх перадусім бізнес. Муж Тэтчэр Дэніс мае тры фабрыкі ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. Сын, Карэл, робіць добры бізнес на гандлі спартыўнымі аўтамабілямі...

— Трэба ўсіх іх павезці на Піскароўскія могілкі, — горача падхапіў Рудольф. — Хай пабачаць цану вайны.

...Пра гэтую сустрэчу ў Ленінградзе расказаў мне сам Барысенка. Ён і яго жонка — мае даўнія знаёмыя. Я напісаў пра іх аповесць «Праз туманы». Дадамо, між іншым, што пад час свайго прыезду да нас у 1986 годзе Савелій Гаўрылавіч унёс у Фонд міру пяцьдзесят фунтаў стэрлінгаў.

**Л. ПРОКША.**

---

## КНІГАПІС

Михаил Плотников

ПЕРВЫЕ ЗАЛПЫ НА ГРАНИЦЕ



М. ПЛОТНІКАЎ. Першыя залпы на граніцы. На рускай мове. Мінск, «Беларусь», 1986.

**Нарысы М. Плотнікава расказваюць пра тых, хто ў чэрвені 1941 года першым сустрэў нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Аўтар стварае прывабныя партрэты абаронцаў граніцы — радавых пагранічнікаў і іх камандзіраў.**

ЛЕОНИД ПРОКША

ТУНИКА НЕССА



Л. ПРОКША. Туніка Неса. Раман. На рускай мове. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1986.

**Раман Леаніда Прокшы «Туніка Неса» ўзнаўляе драматычныя падзеі другой сусветнай вайны, расказвае аб сумеснай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі французаў, а таксама савецкіх грамадзян, якія воляй абставін апынуліся за мяжой. Асабліва ўдаўся аўтару вобраз беларускага камсамольца Уладзіміра Антоненкі. Юнак быў вывезены акупантамі на катаржныя работы на востраў Алерон. Не толькі не скарыўся ворагу, але і арганізаваў групу Супраціўлення. На жаль, Антоненка не дачакаўся дня перамогі.**

**Дарэчы, Л. Прокша не ўпершыню звяртаецца да гэтай тэмы. Яшчэ ў 1965 годзе сумесна з В. Андрэевым і У. Сасінскім ён выдаў асобнай кнігай нарыс «Героі Алерона». Пасля гэтага неаднаразова гутарыў з У. Сасінскім, перапісваўся з В. Андрэевым. Назапашаны фактычны матэрыял і дапамог у час працы над раманам.**




Ю. СВІРКА. Шлях да сябе. Вершы. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1986.

**Зборнік Юрася Свіркі «Шлях да сябе» склалі лепшыя творы паэта з яго кніг «Баравіна», «Крэўнасць», «Памятная вярста», «Біяграфія памяці» і іншых. У вершах апяваецца прыгажосць роднай зямлі, найперш — Бягомльшчыны, дзе аўтар нарадзіўся, услаўляецца мужнасць беларускага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У зборнік таксама ўвайшлі творы, прысвечаныя дружбе, каханню.**

**Вершы Ю. Свіркі на рускую мову пераклалі І. Васілеўскі, В. Арцёмаў, В. Элькін, А. Шаталаў.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Іван КІРЭЙЧЫК**



### Лоеў

Памяці Героя Савецкага Саюза, генерал-лейтэнанта А. Р. Фралянкова, былога камандзіра 193-й Дняпроўскай стралковай дывізіі, воіны якой, фарсіраваўшы Днепр пад Лоевам, адныімі з першых ступілі на беларускую зямлю.

Зноў і зноўку прыводзіць былое,
Як дамоў, ветэранаў у Лоеў.
Ці дамоў?
Мо шукаць сваёй часці
Ці на фронт вырывацца з санчасці?
Ім Дняпро тыя раны далечыць,—
Вунь тырчаць беларускія печы,
Абгарэлыя, ўмытыя дымам...
Жураўы пралятаюць над імі.
Там не дождж,
Над дняпроўскаю кручай,—
Плача круча
Слязою гаручай,
Кроў між лісця рабін ацякае...
Ш т о,
што раны? —
Радзіма чакае.

Як да бацькі ці роднага брата,
Прыязджаюць у Лоеў салдаты,
Каб
сябрам баявым пакланіцца,
Тым,
што молада ў Лоеве спіцца.
Потым пройдуцца ціхай хадою
Павітацца з дняпроўскай вадою.

Успаміны,
Яшчэ успаміны...
Словы падаюць цяжка —
як міны,
І сядзяць у абдымку,
Сівыя,
Генералы і радавыя.
Не заўважаць старое,
Якая
Іх чакае
За шклянкаю чаю.
Запытае пасля, бы між іншым:
— Можа, разам служыў з маім
Мішам?..—
І паможа старая, бы ўнуку,
Зашпіліцца таму, хто бязрукі...

●

Крыніца.
Бяроставы коўшык.
Альтанка для добрых людзей.
Паставіш з грыбамі свой кошык,
Паклонішся нізка вадзе.

Паклонішся ўдзячна зямліцы
За гэты гаючы выток.
І п'еш не ваду той крыніцы,
А светлы бярозавы сок.

Абстаўлена свежаю плашкай —
Чысцейшы, вірлівы струмок...
На донцы разбітую пляшку
Зацягвае жвірны пясок.

Настрой ападае прыўзняты.
За што?
І чаму?
Праз каго?
І ты — нібы сам вінаваты,
Святое крануўшы нагой.

### Іней

З адвечным шчасцем селяніна
Лаўлю той міг
І часу бег,
Калі на дрэвах пышны іней,
Калі ў палях глыбокі снег.

Мне люба гэтая прыкмета.
Як песню пець —
Такую мець:
У родным краі будзе лета
З калоссем гэткім,
Нібы медзь!

І будзе верасень вясельным.
І пульхны хлеб.
І песні ўзлёт.
І зноў туды пацягне вельмі,
Дзе і ўспаміны,
Нібы мёд...

●

Такія светлыя узоры
Зіма развесіла наўсцяж:
Куды ні глянь — пішы пейзаж,—
Такія светлыя узоры.

Такая свежасць і бадзёрасць,
І крок спявае — не рыпіць.
Нагбом паветра прагнеш піць,
Такая свежасць і бадзёрасць.

І зловіш міг, што цесны горад,
Што дзесьці ёсць шырэй прасцяг,
І па-юначы, без разваг
Ты ловіш міг, што цесны горад.

Сама папросіцца душа
Па зацярушанай лыжнёўцы
Імчаць туды, дзе ходзіць сонца, —
Сама папросіцца душа.

І ўжо ў грудзях аж сэрцу цесна
Ад мысляў блізкіх і такіх,
Што к нам даходзяць праз вякі,—
І ўжо ў грудзях аж сэрцу цесна.

З табой параіцца застылі
Вунь здані сініх ялін,
Нібыта волаты з былін,
З табой параіцца застылі.

І сэрцам рынешся туды:
Мы змалку большы вопыт маем,
Бо столькі войнаў паламалі...
І сэрцам рынешся туды.

І аж грукоча ў скронях кроў:
Ані за што не аддасі
Ты гэту бель і гэту сінь...
Ажно грукоча ў скронях кроў.

### Рабіна

Светлай памяці сына Сяргея, малодшага сяржанта Савецкай Арміі.

Усе яны вясною адцвілі —
Акацыі, чаромхі, бэз і вішні,
І, сцішаныя, ў лета адышлі,
Шпурнуўшы белым ветрам квет
свой пышны.

Рабіна разам з імі адцвіла.
Але наўрад тады ці хто прыкмеціў
Яе, такую сціплую, у квеце, —
Нібыта нават побач не была.

Салоўкі адспявалі.
І ў адлёт
Ужо вяслуюць жоравы і гусі.
Аджыў лісток,
пабляк.
І шэры дождж назойліва цярусіць.

І тужыцца наўсцяж самотны дзень,
І роспач развітальная на сэрцы...
А тут — такая зыркая ірдзень,
Хоць падыдзі, бы к вогнішчу,
пагрэцца!

Вось так штогод у стылы свет,
Як на руках, як дар сардэчны,
Нясе рабіна шляхам плод і квет
Насустрач белай зімняй халадэчы.

Вось так і чалавеку б.
Не тады
Сваёй душы шчадроты распасцерці,
Калі і без таго ты малады,—
Тады,
Калі ў другога стыне сэрца.

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Валерый ДРАНЧУК**



### Хроніка

1.
*Беларусь 80-я*
колькі гадоў табе
хлопчык?
мне споўнілася чатыры
калі я катаўся яшчэ
на трохколым
веласіпедзе.

2.
*Беларусь 40-я*
мне чатыры
я стаў сіратой
і калекам
татку павесілі
мамку забілі
а мне вось руку...
яе ўжо ніхто не прышые

### Ахрэмавічы. Хутар

Там у мяне
парог
і выхад у Сусвет.
Там
лёгка адарвацца
ад зямлі.
Яна
паторквае ў пяту,
як некалі матуля,
трымаючы ў далоні
навырост.

Там
дзень, як шар,
напоўнены святлом палёў,
блакітным
рэхам.
Ён ціха пакалыхваецца ля сцяны
старога лесу
ад дотыку
яловай лапкі.

А мне баліць,
каб шар
не пракалоўся.

### Дарога на Кучкуны

У нетрах памяці
рыданні ў цішыні,
вандровак збітыя парогі.
Па дарозе
цягнецца мая любоў
святочным белым днём дзяцінства.

У ліпах хутар, водар палыну,
валун у жыце. На яго
крумкач садзіцца.
Воблаку спыніцца немагчыма,
як немагчыма вытлумачыць сэнс
маёй любві.
Як цень, яна са мною.

### Хіба можна

І
Шануйце родную мову
так Цётка сказала
звалі яе Алаізай

Хіба можна зняверыцца ў словах
гэтых гарачых
зярнятах сагрэтых крывёю
хіба можна аддаць
забыцца

## З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

**Юрый БАГУШЭВІЧ**



# Франтавыя апавяданні

**5 мая споўнілася б 70 гадоў пісьменніку Юрыю Багушэвічу, удзельніку Вялікай Айчыннай вайны, аўтару кніг «У гарадку над Нёманам», «Дырэктар «зялёнай школы», «Юнацтва прыйшло» і інш. Друкуем сёння два франтавыя апавяданні з літаратурнай спадчыны пісьменніка.**

## Глыток

Даруй мне, Мікалай Сталбоў, што нядобрым словам успамінаю цяпер цябе. Ваяваў ты мужна, але загінуў...

...ват сустрэчны вецер не мог астудзіць нас.

Батальён пазнійся з выхадам на зыходны рубеж. То адзін, то другі баец пачалі тайком адшпіляць і апускаць у снег процітанкавыя гранаты. Спачатку снег па калена, затым па пояс...

Наш камроты старшы лейтэнант Кружалаў звярнуўся да зампаліта батальёна Каструліна, які ішоў побач:

— Таварыш маёр, дазвольце людзям зняць маскхалаты. Не дойдзем.

Было так. Асобны курсанцкі батальён рушыў на зыходныя пазіцыі, каб атакаваць станцыю Насва.

Мы былі добра падрыхтаваныя. У кожнага аўтамат і запасныя ражкі, процітанкавыя гранаты і гранаты «РГД», фінскі нож на поясе. І апрануты выдатна: ватовыя штаны, целагрэйка, а пад ёю футравая безрукаўка, валёнкі, шапка-вушанка і зверху белы маскхалат.

Выйшлі на досвітку. І трэба ж, прайшлі нейкія два кіламетры, як пачаўся снегапад. Усё гусцей ішоў снег, усё вышэй сумёты. І з кожнай хвілінай рабілася цяжэй і цяжэй ісці па снежным цаліку. Пот заліваў твар, на-

У гэтай завірусе і ў ватоўках немцы не заўважаць нас.

— Ну што ж, дай каманду—няхай здымуць маскхалаты, але не кідаюць.

Лягчэй стала ісці салдатам. А калі разгарнуліся ў ланцуг, як на тое ліха, завіруха заціхла, паказалася сонца. Далёка стала відаць навокал. А мы на падыходзе да нямецкіх пазіцый, як чорныя тараканы ў смятане, на белаcнежным полі.

Фрыцы сустрэлі нас шчыльным кулямётным агнём. Рваліся міны. Упаў Каструлін ад асколка ў грудзі. Скінуў сяржант Марцьянаў з лыжных санак кулямёт «Максім», узваліў на іх бездапаможнага камандзіра і пацягнуў назад, у тыл...

Аддаць
хлеб душы памяці лёсу
хлеб пакаленняў

забыцца
не аглянуцца
прайсці міма вачэй
роднай маці

II

Губляем спадчыну
запаветнае матчынае
разам з малаком малалецтва
нашага
выплёўваем на
гарадскія сметнікі
слова наскае

А потым
употай
ад свету тоячыся
будзем туляцца
з трагічнымі тварамі
з тварамі настальгічнымі — і
там
на сметніку
не гісторыі — выраджэння нашага
шукаць
не знаходзячы тое што —
страчана
страчана
страчана

●

Людское —
вось вам жанчына:
з тварам пакутніцы
яна апантана
амаль без памяці
збірае ў хусціну
кроў свайго сына
што т у т загінуў
у катастрофе

Людское —
вось вам маці і бацька
яны забыліся як усміхацца
засяроджана-цяжка
згінаюцца долу
і разгінаюцца цяжка
саджаючы кветкі
т а м на абочыне
куды смяротная хваля сляпая
кінула цела
родную іх крывінку

Людское —
вось вам маленькая градка
жалобы
на полі бяскрайняй пакуты
вось вам кветкі жывыя
вось — букет стэарынавых ружаў
у снезе
вось вам дзве галавы сівыя

## *Трохрадкоўнікі*

Распускаецца клён венцаносны.
Пад ім на арэлях-калісьці
Гушкалася мая мама.

●

Бачыў — садзілася сонца на лес,
Хтосьці ў золаце пылінак
Ішоў па дарозе.

●

Цвіце пракаветная ліпа.
На ўгрэтай страсе чарапічнай
Пліска снуе чаўначком.

### З паэмы дзяцінства

Коўш экскаватарны нада мной.
Зматваю вуды.
Меліярацыя.

### Хтосьці ў хату прынёс яловую лапку

Ляжыць на паверхні лавы
З драбочкам смалы на зломе.
Калышуцца шаты лясныя.

●

Павязаны далеччу,
Ніткай пясчанай
Іду ў бязмежнасць.



У ІВЯНЦЫ. Фота Я. КАЗЮЛІ

Суседнія роты аўтаматчыкаў, так сама без маскхалатаў, паўзком прабіраліся ўперад. Але марудна, вельмі марудна.

А фрыцы, скарыстаўшы нашу затрымку, падцягвалі рэзервы. Дзесьці глуха заракаталі маторы, а затым з-за нізкіх станцыйных пакгаўзаў выпаўзлі танкі. І мы зразумелі, чаму нам былі дадзены процітанкавыя гранаты. Большасць жа гэтых гранат засталіся ў снезе.

Танкі рухаліся паволі, некаторыя буксавалі ў сумётах. Але гарматны і кулямётны агонь патушыў апошні парыў атакуючых.

Ззаду нашага батальёна ўзвіліся ў неба дзве зялёныя ракеты — сігнал адыходу.

Мы то паўзком, то перабежкамі адыходзілі, выцягваючы забітых і параненых таварышаў.

Цяжка салдату зразумець, што робіцца навокал, калі бой склаўся няўдала. Камандзіры спрабавалі наш адыход ад станцыі зрабіць бяскроўным. Але з бліжэйшай вышыні, з фланга, білі нямецкія буйнакаліберныя кулямёты. І падалі, падалі пад агнём салдаты. А сонца, устаўшы над гарызонтам, азарала адыходзячыя рэдкія ланцугі ў чорных ватоўках.

Перад намі рэдкі peралесак, а за ім схілы высотак, за якімі можна перадыхнуць. Нарэшце перавалілі гэтыя ўзгоркі. Камандзіры ўзводаў і рот збіралі сваіх салдат, каб спыніць нямецкую контратаку.

У рэдкім сасонніку ўбачылі вялікі свіран. Раскрытыя насцеж шырокія дзверы. Туды стрымгалоў забегла некалькі нашых аўтаматчыкаў.

Ля сцяны з бярвення — некалькі жалезных бочак. У іх... гарэлка. Салдаты, хто кацялком, хто кубкам, чэрпалі яе. А на доўгіх жэрдках уверсе віселі кружкі кілбасы...

Тут мы і сустрэліся з табой, Мікалай Сталбоў. Ты ўжо, як відаць, глынуў нямала і, сарваўшы кружок кілбасы, смачна жаваў прамерзлую мясную мякаць. Працягнуў і мне кацялок з вострым пахам гарэлкі.

— Давай вып'ем за тое, што немцы нам выспятка далі сёння. Ні храна, сяржант, заўтра і яны пабягуць. А я, чуеш, узводам камандую. Лейтэнанта нашага з танка зрэзала... Дыты пі, чаго стаіш? — працягваў ён, адломваючы кавалак кілбасы. — Праўда, ва ўзводзе цяпер байцоў меней, чым у маім аддзяленні было. Але нічога, два ручныя кулямёты з запаснымі магазінамі не кінулі.

Сталбоў гаварыў і размахваў кацялком.

— Мікалай, можа, хопіць? Абарону трэба ж займаць. Немцы на пяткі наступаюць.

— А чорт з імі! Я зараз узвод вунь на той узгорак выведу і дам ім жару. У цябе колькі байцоў?

— Пяцёра ў аддзяленні засталося ды ручны кулямёт.

— Далучайся да нас.

— Не, Сталбоў, камузвода загадаў заняць абарону на ўзлессі... Ды хопіць табе піць!

— А чаго дабру прападаць? Тылавікі нашы драпу далі, дык вып'ем і закусім... Вось яшчэ глыток зраблю і пайду пазіцыю займаць.

Сталбоў зноў прыклаўся да кацялка. Затым... асеў на зямлю.

Нам не было часу спрачацца з ім і яго салдатамі. Ухапіўшы па кружку кілбасы, мы рушылі туды, дзе загадана нам адкапаць стралковыя ячэйкі.

Неўзабаве немцы выбілі нас і з гэтай пазіцыі. Адышлі яшчэ на кіламетр. І тут параніла малодшага лейтэнанта Прышчэпкіна. Я прыняў парадзелы ўзвод.

Замацаваліся на вышыні. Да нас паспелі падцягнуць сувязь, дадалі два станковыя кулямёты, з'явіліся бранябойшчыкі з ружжамі ПТР. Мне як камандзіру ўзвода перадалі бінокль. І ў яго я ўбачыў, як гінуў узвод Мікалая Сталбова.

Нямецкі танк вынырнуў ля свірна. Грымнулі гарматныя стрэлы і ўспыхнулі прасмаленыя бярвенні. Паспеў выпаўзці з палаючай будыніны Мікалай Сталбоў. Выпаўз... але той лішні глыток гарэлкі не даў яму падняцца, не дазволіў прыняць бой. Блізкі разрыў зваліў яго.

Салдаты падпалілі нямецкі танк, вынеслі Сталбова да нашай абароны. У апошні раз расплюшчыў ён затуманеныя вочы і, захлынаючыся крывёю, прамармытаў:

— Не паспеў... Не паспеў...

Роты марскіх пехацінцаў пагналі немцаў назад. А ззаду нашай траншэі ляжаў ты, Мікалай Сталбоў.

Ляжаў мёртвы.

## Таксама бой

Летнім сонечным днём старшына медыцынскай службы Галіна Патапчык была цяжка паранена асколкам снарада. На грузавой машыне артзабеспячэння яе хутка даставілі ў медсанбат. Вялікія палаткі хаваліся пад магутнымі кронамі сасновага бору на беразе Буга.

У аперацыйнай панавала напружанне.

Хірург Макроў рыхтаваўся да складанай аперацыі. Пакуль ён старанна мыў рукі, акуратна шчоткай вышароўваючы кожны палец, Галіну паклалі на стол, далі наркоз.

Высока ў небе над вяршалінамі мачтавых сосен, над замаскіраванымі палаткамі медсанбата грымеў паветраны бой. Савецкія і фашысцкія знішчальнікі раўлі маторамі, грымелі кулямётамі і гарматамі, то ўзмывалі ўверх, то пікіравалі адзін за адным.

А тут, у засені дрэў, людзі, занятыя сваёй справай, не зважалі на гэты грукат і гул матораў. Яны ратавалі жыццё чалавека.

Высокая, чарнабровая Галіна Патапчык была ветэранам нашай дывізіі — ваявала з першых дзён яе фарміравання. Працавала хірургічнай сястрой, затым перайшла ў артылерыйскі дывізіён. Батарэйцы любілі дзяўчыну за вясёлы нораў і, галоўнае, за смеласць. Ішла яна з артылерыстамі нават тады, калі батарэі выходзілі на прамую наводку, суправаджаючы пяхоту агнём і коламі. Нямала параненых вынесла з поля бою Галіна. Пад выбухамі варожых снарадаў і мін беражліва перавязвала іх.

За гады вайны ў батарэях былі ўжо «хрэснікі» Патапчык. Пасля шпіталяў яны зноў вярталіся да сваіх гармат. І там пра цяжкае раненне Галіны Патапчык даведаліся амаль усе ветэраны. І таму так засяроджана рыхтаваўся да аперацыі хірург маёр Макроў. Ён быў выдатным урачом, дасканала ведаў сваю справу. Але хірургу сёння было цяжэй удвая, бо ўдвая складаней апераваць блізкага, знаёмага сабрата па прафесіі.

Макроў не толькі выратаваў жыццё Галіне, ён зрабіў усё для таго, каб яна засталася здаровым чалавекам.

З палёгкай уздыхнуўшы, Макроў адышоў ад стала і пачаў здымаць пальчаткі. Медсястра, якая заўсёды дапамагала яму, беражліва выцерла марлевай сурвэткай узмакрэлы твар хірурга.

— Шыйце. Усё ў парадку, — сказаў ён напаўголасу. І толькі цяпер зноў пачуў грукат паветранага бою. «Што гэта? Новыя самалёты ў паветры?.. Апераваў жа я доўга. Не раз можна спаліць поўны запас бензіну... Як відаць, новыя...» — падумаў ён, прысеўшы на паспешна падстаўленую табурэтку.

Адпачыўшы хвіліну-другую, Макроў зірнуў на аперацыйны стол. І раптам твар яго пачырванеў ад гневу.

— Ты што робіш? — крыкнуў ён.

— Як што? Швы накладаю, — збянтэжана адказаў хірург Сярогін.

— Якія швы?! Канавал! Што за валік ты робіш?

— Ну і што, таварыш маёр. Звычайнае шво. Вайна ж цяпер. І мы не ў стацыянарнай клініцы.

— Канавал! — зноў закрычаў Макроў. — Перад табой дзяўчына. Вайна канчаецца. У яе ўсё жыццё наперадзе. А ты... Ты ж яе знявечыць можаш. Адыдзі ад стала!

Стараючыся супакоіцца, Макроў напаўголасу працягваў:

— Сустрэне Галіна чалавека, палюбіць яго і засаромеецца сама сябе, свайго цела, таму што ты не захацеў падумаць пра гэта цяпер.

Макроў зноў стаў за стол. І ўсе, хто быў у гэты час у аперацыйнай палатцы, усхвалявана глядзелі, як беражліва робіць Макроў шво на целе ціхамірна спячай дзяўчыны. Касметычнае шво. Ды такое, што не відаць было на юным целе.

...Хірург выйшаў з палаткі, зморана прытуліўся да сасны. Я падышоў і стаў побач. На правах ваеннага карэспандэнта глядзеў, як ён апераваў Галіну Патапчык. Праўда, давялося і мне надзець марлевую павязку.

— Дай закурыць, газетчык, — ціха папрасіў Макроў. І, размінаючы папяросу, па-змоўніцку падміргнуў мне: — Не даюць курыць сёстры. Сэрца падводзіць пачало. І не дзіўна. Як баі цяжкія ідуць, мы суткамі ад стала не адыходзім. Вось і здае сэрца, і ў мяне, і ў Сярогіна.

Закурылі. Макроў, пазіраючы ўгару, дзе працягваўся бой знішчальнікаў, з сумам уздыхнуў:

— Дарэмна я на Сярогіна накрычаў. Цяпер, праўда, параненых мала, крыху адсыпаемся. Ды ці можна мне і яму адаспацца за тры-чатыры дні? Тут месяца мала. І працуе ён добра, самастойна. І стаміўся даўно. Дзе тут думаць пра заўтрашні дзень. Дарэмна накрычаў...

— Не, не дарэмна.

— Ну, гэта размова доўгая, яе пасля вайны працягнем... Ты глядзі, яшчэ нашых ястрабкоў дабавілася, — з захапленнем усклікнуў Макроў, задраўшы галаву. — Добра! Даюць яны жару сцярвятнікам...

У небе ішоў бой. Бой у імя будучага жыцця.

Публікацыя
А. РЭГІС-БАГУШЭВІЧ.

# НЕ БЫВАЕ Ў ЗАЛЕ РАЎНАДУШНЫХ

Амаль паўстагоддзя існуе Ансамбль песні і танца Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі (створаны ў лютым 1938 года па загадзе наркома абароны краіны К. Я. Варашылава). Адметнае месца займае гэты калектыў сярод ансамбляў рэспублікі. У яго ёсць кампетэнтны мастацкі савет, дзейнічае конкурсная сістэма, што дазваляе карэкціраваць якасць праграм, якія падрыхтоўваюцца. Касцюмы, інструменты, грым,—словам, увесь рэквізіт набываецца на сродкі з даходаў ад канцэртаў. Так, гэты калектыў часткова карыстаецца гаспадарча - разліковым прынцыпам, самаакупляльнасць як праблема для яго не існуе.

Мастацтва яго папулярнае. Аднак сустрэцца з ансамблем, вядома, няпроста: у сферы ягонай дзейнасці канцэрты, якія праводзяцца дзеля эстэтычнага выхавання воінаў Савецкай Арміі, выступленні, прымеркаваныя да вялікіх усенародных святаў. Асабліва ганарацца артысты нядаўнімі гастрольнымі паездкамі ў Афганістан і ў Чарнобыль.

Спецыфіка аналагічных ансамбляў не толькі ў структуры, што нагадвае старадаўнія капэлы (хор, салісты, вакальныя дуэты і квартэты, «змешаны» аркестр, інструментальныя ансамблі, чытальнік, танцавальная група), але і ў змесце рэпертуару. Ён, як правіла, скіраваны на актыўную прапаганду ідэі духоўнай еднасці і стойкасці савецкіх людзей і ўвасабляе непарушнасць сувязі Савецкай Арміі і народа. Важкая доля рэпертуару—кантаты, оды і песні, у якіх раскрываюцца вобразы вайны праз трагічны лёс чалавека, які імкнецца да шчасця. Своеасаблівы «залаты фонд» складаюць песні ваеннага часу («Свяшчэнная вайна», «Салаўі», «Зямлянка» і інш.), якія выконваюцца заўжды. Пастаянна звяртаюцца да гэтай тэмы сучасныя кампазітары і паэты, ствараюць трывалыя ніці, што звязваюць людзей розных пакаленняў адзінай эмацыянальнай і этычнай памяццю.

Мемарыяльныя па характары песні пра жанчын-удоў, пра галодных, асірацелых дзяцей, пра салдацкую долю, песні пра воінскі подзвіг, пра Радзіму, песні эпічныя і лірычныя—ці ж не могуць яны растрывожыць душу кожнага з нас? Невыпадкова лепшыя старонкі «ваеннага» рэпертуару лічаць музычным сімвалам Памяці сучаснікаў пра трагічнае і гераічнае мінулае, пра вялікі ўрок Перамогі. Слухаючы такія праграмы, не можаш не задумацца над тым, **хто мы,** чаму нам наканавана перамога. Яны выхоўваюць веру ў Любоў, Дабро і Жыццё. Ці не ў гэтым высакародная гуманістычная місія Ансамбля песні і танца ЧБВА, місія, якая адлюстроўвае высокія «этычныя знакі» Айчыны?

Ёсць у рэпертуары ансамбля (яго мастацкім кіраўніком працяглы час з'яўляецца Л. Муранаў) і непаўторныя рысы. У праграмах робіцца акцэнт на дыялог мінулага і цяперашняга, прысутнічаюць і песні-сцэнкі з сучаснага жыцця краіны, у якіх дамінуе музыка вясковага і гарадскога побыту. Захоплены водгук залы, калі яна пачынае падпяваць артыстам, можна назваць «трапным інтанацыйным пападаннем».

Поспех ваеннай капэлы тлумачыцца і высокім выканаўчым узроўнем артыстаў, іх імкненнем пранікнуць у самую сутнасць, душу народнай песні. Нельга не адзначыць і бездакорную музычнасць спевакоў-салістаў (У. Яскевіч, А. Кузняцоў і інш.), музычнасць, стабільнасць і выразную дыкцыю хору (хормайстар Б. Кір'янаў).

Інтэрнацыянальнай адметнасцю вылучаецца работа танцавальнай групы (кіраўнік М. Салко). «Беларуская полька», «Рускі танец», «Малдаўская сюіта»... У іх—пластычная вобразнасць, зухаватасць, «па» скамарохаў, лірычныя сцэнкі, віхура фарбаў, што праносяцца ў хуткім танцы, яркія касцюмы. Удалая ж харэаграфія Ю. Чарнецкага падкрэслівае арганічнасць танцавальнай групы.

Напэўна, самае моцнае ядро ансамбля — яго аркестр (дырыжоры Л Муранаў і У. Афонін). Майстэрства яго інструменталістаў—не пабаюся перабольшыць — можа выклікаць зайздрасць у любога аркестравага калектыву рэспублікі. Зліццё струнных смычковых з эстрадным інструментарыем (электраінструменты, ударная ўстаноўка, медзь) ствараюць цудоўны ансамбль са своеасаблівым тэмбральным каларытам. Праўда, часам адчуваецца недахоп струнных інструментаў, пераважна скрыпак. Цудоўнае выступленне ансамбля скрыпачоў, у складзе якога ёсць сапраўдныя віртуозы (А. Караеў, В. Тарабука, Г. Гурэвіч), пераконвае, што ліквідаваць акустычныя «правалы» струнных у апафеозных мясцінах можна, калі ўзмацніць скрыпічную групу.

Самае вялікае ўражанне—ад кантакту ансамбля з публікай. Артысты тут не проста прафесійныя. Манера іх паводзін перад залай сведчыць: удзельнікі калектыву выдатна ведаюць свайго адрасата і не хаваюць радасць кантакту і жаданне звяртацца да публікі. Ніякіх сцэнічных «комплексаў», ніякай акадэмічнасці ці адарванасці ад публікі, ніякага артыстычнага «гіпнозу» і г. д. Уражанне такое, быццам кожны з залы можа прапяваць, станцаваць, сыграць, пажартаваць (як гэта рабіў А. Кавалёў) разам з артыстамі. А ў ансамблі ж сапраўдныя прафесіяналы, ёсць заслужаныя артысты рэспублікі, ёсць лаўрэат Міжнароднага конкурсу (вакаліст І. Шупеніч)!

Прафесіянал высокага класа — мастацкі кіраўнік ансамбля Л. Муранаў Прафесіяналізм яго грунтуецца на сапраўднай таленавітасці. Ён іграе на скрыпцы, кларнеце, раялі, саксафоне, ведае прыроду вакалу і спецыфіку народных інструментаў, ён—хормайстар, дырыжор аркестра, свабодна валодае рамяством харавога і аркестравага аранжыроўшчыка, педагог.

**Кіраўнік ансамбля актыўна далучае да супрацоўніцтва беларускіх кампазітараў У. Алоўнікава, І. Лучанка, Л. Захлеўнага, Э. Зарыцкага, Э. Ханка, У. Будніка. Іх творы складаюць значную частку рэпертуару ансамбля і сведчаць пра ўдзел нашых аўтараў у фарміраванні духоўнага аблічча маладых воінаў. Іх песні падабаюцца вайскоўцам. Менавіта таму У. Алоўнікаў, І. Лучанок і Л. Захлеўны адзначаны вельмі высокай і дарагой узнагародай — прэміяй імя А. Аляксандрава.**

**У штодзённай, напружанай працы аднаго з лепшых мастацкіх калектываў рэспублікі ёсць цяжкасці. Вось хоць бы прапаганда яго мастацтва: патрабуецца шырэйшая рэклама, наўрад ці нармальна, калі такі калектыў штучна адарваны, «схаваны» ад публікі. Для ягоных канцэртаў, думаецца, падышлі б буйныя аўдыторыі тыпу Палаца спорту, стадыёна. Не шкодзіла б аднавіць удзел ансамбля ў Дэкадах мастацтваў, вярнуць яго канцэрты ў паркі. І, нарэшце, немалаважнае значэнне мае аснашчэнне яго адпаведнымі інструментамі (асабліва медзь) і дакамплектоўка струннага складу. Пытанні гэтыя вымагаюць увагі. Прыгадайма, што праз год Ансамблю песні і танца Беларускай ваеннай акругі споўніцца 50 гадоў.**

Э. ГАБРЫЭЛЯН.

# НЕ ПОМНІК, А ЖЫВОЕ СЛОВА

## Роздум пра народна-песенныя традыцыі

Вярнуцца да традыцый. Для сучаснага чалавека гэта, перш за ўсё, — раскрыць тыя крыніцы натхнення, узнавіць тыя акцэнты ў сваёй свядомасці, дзякуючы якім мацнее любоў да роднага краю, да мовы, да народнай песні. З асаблівым пачуццём успамінаеш мудрую, напоўненую вялікай праўдай думку: «Народ, які забывае сваё мінулае, рызыкуе пазбавіцца будучыні». Так, бо мінулае — гэта глыбокія карані, а будучае — здабытак аднаго і таго ж дрэва, дрэва жыцця народа. Вопыт мінулага, культура ўзаемаадносін, якая фарміравалася і спрадвек існавала ў народзе, — хіба гэта не каштоўны грунт для развіцця нашых сённяшніх узаемаадносін, сённяшняй культуры?

**Усё гэта, здавалася б, самі сабой зразумелыя ісціны. Аднак з засваеннем нашай духоўнай спадчыны, адраджэннем культурных традыцый сёння звязана нямала праблем. Напрыклад, такая, як павінны суадносіцца паміж сабою музычны фальклор і арыгінальная творчасць прафесійных кампазітараў, народнае і акадэмічнае харавое спяванне?**

**Праблема неадназначная, і таму нельга, каб погляд на яе быў аднабаковы і катэгарычны. Дазволю сабе паразважаць пра найбольш блізкі нам, харавікам, яе аспект.**

**Узаемасувязь народнага і акадэмічнага харавога спявання ўзбагачае і ўпрыгожвае кожную нацыянальную харавую культуру. Але стан народнага харавога спявання на Беларусі выклікае сёння трывогу. Пры жаданні можна досыць дакладна падлічыць, колькі засталося ў нас пажылых людзей — захавальнікаў фальклору, пеўчых традыцый і... пераканацца, што праз колькі год мы страцім назаўсёды тое, чым павінны ганарыцца як скарбам духоўным. І калі мы будзем проста жаліцца і заклікаць да захавання гэтага скарбу, думаю, мала што зменіцца. Народную песню трэба зберагаць і вывучаць, але не як помнік мінуўшчыны, а як жывое слова, якое ўзбагачае і разнастаіць нашу мову на ўсе часы.**

**Сёння ўжо многае з таго, што ведалі нашы продкі, трэба як бы нанова адкрываць, заносіць у «Чырвоную кнігу», аднаўляць страчанае. Народная песня — гэта не прыватная ўласнасць, яна мае быць здабыткам многіх, яе нельга ізаляваць ад шматстайнага свету сучаснага чалавека, вымушанага вырашаць мноства вострых сацыяльна-палітычных, матэрыяльна-эканамічных, духоўна-эстэтычных, іншых надзённых задач.**

Вядома, у нас усе калектывы мастацкай самадзейнасці выконваюць беларускія народныя песні. Выконваюць. Але як?! Калектыў, які выйшаў на сцэну ў беларускіх нацыянальных касцюмах і выканаў народную песню, яшчэ нельга назваць харавым калектывам, што спявае ў народнай манеры. Часцяком дыхтоўны і дарагі ўбор не адпавядае выканаўчаму ўзроўню калектыву. Я ўжо не кажу, што самі касцюмы выглядаюць часцей за ўсё аляпаватымі і безгустоўнымі, цяжкімі і няўклюднымі. Тым не менш, нават эстэтычная неахайнасць выдаецца за «народнае» і набывае зáмілаваных прыхільнікаў. Некаторыя музыканты сцвярджаюць, што кожны харавік-акадэміст, які не валодае народнай манерай спявання, можа прафесійна кіраваць народным хорам. Сапраўды, кіруюць жа ўсе: баяністы, народнікі ўсіх спецыяльнасцей, харавікі-акадэмісты, ды і людзі, якія ўвогуле не маюць музычнай падрыхтоўкі. Нямала ёсць ахвотнікаў сапсаваць, зганьбіць прыгожую народную мелодыю, прыкрываючыся зручным тэрмінам «трансфармацыя», а яшчэ горш, калі яны сцвярджаюць, што, маўляў, аснова народнага спявання нікога не цікавіць і зусім непатрэбна.

Калі ў аўтарскай музыцы кампазітар імкнецца стварыць штосьці новае, сваё, выказаць змену пачуццяў і настрою, выявіць сваю творчую індывідуальнасць, то ў народнай песні ёсць імкненне зліцца са шматвяковай традыцыяй. Народная песня не скоўвае спевака абавязковым выкананнем дакладнага меладычнага малюнка, а дае яму свабоду самастойнага імправізавання; народны спявак заўсёды знаходзіцца ў стане пошуку, творчага гарэння — ён не можа ператварыцца проста ў «выканаўцу» і механічна спяваць завучаную мелодыю.

Ну, а беларускі нацыянальны касцюм? Багацце фарбаў, ліній, формы, гармонія колеру, вышывак, узораў спрадвек адпавядалі палёту фантазіі, высакароднасці, сціпласці, цярпенню беларускіх жанчын-майстрых, якія спрацаванымі рукамі вязалі тонкія карункі, стваралі дзівосныя вышыўкі. Сапраўдны беларускі народны касцюм — гэта твор мастацтва, якім можна захапляцца, як жывапісным палатном у музеі.

На жаль, Музей беларускага народнага мастацтва, у якім дэманструюцца ўзоры нацыянальных касцюмаў, знаходзіцца ў Раўбічах, і, каб пабываць там, неабходна патраціць не адну гадзіну. А прыедзеш — і задаеш рытарычнае пытанне: чаму б у такіх музеях не даць магчымасці не толькі паслухаць, а і купіць магнітафонныя касеты з запісам беларускіх народных песень любой вобласці Беларусі? Пакуль жа багатыя фанатэкі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР недаступныя не толькі для масавага слухача, але і для кіраўнікоў самадзейных народных хораў.

Многія прафесійныя народныя харавыя калектывы маюць свае школы-студыі, што рыхтуюць для сябе маладых выканаўцаў. Народны хор «Медуніца» Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі можна лічыць хорам-спадарожнікам Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР, у якім працуе ўжо больш чым дваццаць выпускнікоў вучылішча. Выпускнікі аддзялення народна-харавога спявання вучылішча працуюць і з калектывамі мастацкай самадзейнасці. Дык першае, з чым сутыкаюцца маладыя кіраўнікі харавых калектываў, — адсутнасць адпаведных нот (колькі пра гэта можна гаварыць і пісаць!), кніг пра фальклор. Выпушчаныя пласцінкі з запісамі беларускіх народных песень можна пералічыць па пальцах. Дарэчы, у газеце «Знамя юности» было падрабязна расказана пра дыскі, якія плануе выпусціць Усесаюзная фірма грамзапісу «Мелодия». Ну і якіх толькі назваў няма ў эстрадных груп! Тут і «Сакрэт», і «Брава», «Форум» і «Ронда», «Чорная кава» і «Круіз», «Аліса», «Заапарк», «Акварыум» і г. д., — усіх не пералічыш. Некаторыя з іх ужо развітваюцца з XX стагоддзем, а «Шчасце ў асабістым жыцці» на «Доўгачаканым самалёце» яшчэ толькі будзе выпушчана мільённымі тыражамі, хоць у любым магазіне, дзе прадаюцца пласцінкі, ва ўцэненым аддзеле можна купіць такое «шчасце» за 6—8 капеек.

Дык ці варта выпускаць «загадзя ўцэненыя» капеечныя пласцінкі? Аўтар таго артыкула скардзіўся, што ў эстрадным жанры выбар па-ранейшаму небагаты. Што ж тады казаць пра выпуск дыскаў з народнай музыкай? Ён амаль роўны нулю...

Сучасны трывожны стан харавой культуры ў рэспубліцы, як у галіне самадзейнай, так і ў прафесійнай, звязаны з неглыбокім веданнем вытокаў і стыляў народнага мастацтва (фальклор, касцюм, народны танец, этнаграфія ў цэлым). Але цікавасць у народзе да сваёй старажытнай нацыянальнай культуры сведчыць пра тое, што падрыхтоўка спецыялістаў у гэтай галіне мае быць пастаўлена ў рэспубліцы на прафесійную аснову. Вывучэнне народнага мастацтва як у вышэйшых спецыяльных навучальных установах, так і ва ўсіх музычных вучылішчах, прафесійная падрыхтоўка кіраўнікоў народных хораў, спецыялістаў, якія валодаюць народнай манерай спявання, — задача неадкладная.

**У рамках часу, адведзенага для лекцыі, выкладчык не можа перадаць студэнту ўвесь належны аб'ём ведаў. Неабходна дадатковая літаратура для самастойнага асэнсавання матэрыялу, каб на экзаменах студэнты адказвалі, арыентуючыся не толькі на стандарт падручніка або на канспект, а таксама і на веды, атрыманыя па-за праграмай, каб замест старой сістэмы адказу на пастаўленае пытанне шырока ўкаранялася сістэма дыскусій паміж студэнтам і выкладчыкам. Але ёсць праблема: дзе ж узяць гэтую дадатковую літаратуру? Паўстаючы супраць дыктоўкі лекцый, гэтай «нядобрай методыкі навучання», неабходна мець дастатковую колькасць новых вучэбных дапаможнікаў, патрэбны кнігі, не перагружаныя інфармацыяй і другарадным матэрыялам, які тармозіць разумовыя і пазнавальныя здольнасці студэнта. Ды ў рэспубліцы нават няма свайго падручніка па методыцы работы з народным хорам, у музычных вучылішчах гэты важны прадмет, за малым выключэннем, вядзецца выкладчыкамі, якія не валодаюць народнай манерай спеваў і не ведаюць самой спецыфікі работы з народным хорам! У вучылішчах неабходна мець абсталяваныя кабінеты народнай музыкі, павінна быць наладжана экспедыцыйная фальклорная практыка. Трэба ўсур'ёз задумацца аб прафесійнай падрыхтоўцы новай змены.**

Пайшлі з жыцця два гіганты-знаўцы беларускага фальклору Рыгор Шырма і Генадзь Цітовіч. А рэспубліка не забяспечыла сябе дастатковай колькасцю высокакваліфікаваных дырыжораў-харавікоў, якія валодаюць народнай манерай спявання. На плячах Міхася Дрынеўскага, Мікалая Сіраты, Анатоля Шагава, Леаніда Волчака, Станіслава Дробыша, некаторых іншых адданых фальклору спецыялістаў — нялёгкая, вялікая місія развіцця і прапаганды беларускага песеннага фальклору.

Вучыцца ашчаднаму стаўленню да фальклору, любові да яго, вучыцца гэтаму ў народных майстроў, — задача ўсіх кіраўнікоў харавых калектываў, бо ад культуры кіраўніка, ад валодання сапраўднай культурай народнага спявання залежыць прафесіяналізм хору. Чалавеку наогул шкодна слухаць дрэннае спяванне. І каб атрымаць задавальненне ад народнай песні, неабходна слухаць лепшыя ўзоры, вучыцца разумець, любіць і цаніць сапраўдную народную творчасць.

І ці не наспеў час стварыць хоць адзін фальклорна-этнаграфічны ансамбль беларускай песні пры філармоніі або на радыё, які быў бы захавальнікам добрых традыцый і мог данесці народную песню да сэрца слухача?

**Альберт КАШПУР,**
**кіраўнік фальклорнага ансамбля «Медуніца» Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі.**

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

Аўтар гэтых вершаў Віктар Захаравіч Гаўрусёў (родны брат Сцяпана Гаўрусёва) працуе настаўнікам на Шклоўшчыне. Служыў у Савецкай Арміі, закончыў гістарычны факультэт Магілёўскага педінстытута імя А. А. Куляшова. Апрача асноўнай работы, займаецца атэістычнай прапагандай, з дапамогай калег і вучняў стварыў у сваёй Пудаўнянскай СШ гісторыка-краязнаўчы музей, які працуе на грамадскіх пачатках. У ім сабраны дакументы землякоў — воінаў, партызан, падпольшчыкаў, а таксама вайсковых часцей, што прымалі ўдзел у абароне і вызваленні бліжэйшых населеных пунктаў.

У рэспубліканскай прэсе выступае ўпершыню.

**Віктар ГАЎРУСЁЎ**

●

Дрэмле бор у анямелай стыні,
Палымнее за гарой зара.
На галінцы бэзу ціха стыне
Вугалёк гарачы снегіра.

Вераб'і і тыя пацішэлі,
Вераб'ям і тым не да пацех:
Пырхнулі і задуменна селі
Пад утульную маўклівасць стрэх.

Зарыпяць настылыя вароты,
Паплыве над хатай лёгкі дым
Ды над садам месяц жаўтароты
Шаракоў заблытвае сляды.

Навіну рассыпала сарока,
Толькі што мне з гэтай навіны:
І да лета цёплага далёка,
І яшчэ няблізка да вясны.

●

Вясна — шчаслівая калыска
Маіх вясёлкавых надзей,
Калі да зор далёкіх блізка,
Як душным промням да грудзей;

Калі вясёлым сінім ранкам,
На ўсё забыўшыся, жаўрук
Так глушыць дзятлаву марзянку,
Ажно нямее цецярук;

Калі адхлынулі марозы,
А вецер цёплы і густы,
Ў вадзе па забарсні бярозы,
Па плечы — ніцыя кусты;

Калі і дзень увачавідку,
Як на дражджах, расце, расце,
Ірве зімы сырую нітку
І — гоніць крыгі па Расце;

Калі руплівая малеча,
Перагавеўшая пчала,
Расправіць кволенькія плечы
І дзынкне дзёрзка:
— Зажыла!

●

*Яўгену КРУПЕНЬКУ*

Сустрэчай рэдкаю расчулен,
Удзячны бомкнуўшай струне,
Дзе клопат бачыцца матулін
І —
фота бацькі на сцяне.

А маці — ткалля-чараўніца —
Ці не адна на ўсё сяло
Магла скарынкай падзяліцца,
Абы па-людску ўсё было.

Бярозка сумная ля хаты,
Што з бацькам некалі садзіў,
Агонь спазнала языкаты,
Але ўцалела ўсім наўздзіў.

Яна пад неба парасонам
Цябе чакае дзень пры дні,
Навечна стаўшы эталонам
Надзейнасці і чысціні.

Няхай прамыя пуцявіны
Цябе штодня сюды вядуць, —
Аб краі родным успаміны
Арганна ў сэрцы загудуць.

●

Дубамі сталі жалуды,
Як родны кут пакінуў,
Дзе ў навальнічныя гады
Еў горкі хлеб з мякінай.

Але на лёс не наракаў,
Нястач хапіўшы лішку:
Папераменна ў рукі браў
То бацькаў плуг, то кніжку.

Страсала весела каса
Гарошыны расінак.
І ганарыўся вельмі сам,
Што бацька хваліць сына.

Стаіць над лесам сонца шар,
Прасвечвае галінкі.
І родны мне тут кожны твар
І —
кожная травінка.

## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ

**Віктар Казько ў складзе дэлегацыі Беларускай ССР прымаў удзел у рабоце 41-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Меў магчымасць прыглядзецца да жыцця ЗША. Ніжэй прапануюцца ўвазе чытача «ЛіМа» паасобныя старонкі яго амерыканскіх занатовак.**

**Віктар КАЗЬКО**

# Паездка ў Філадэльфію

ЯЕ нечаканае з'яўленне на ганку радэнаўскага музея можна, бадай, параўнаць са з'яўленнем чорціка з табакеркі. Хоць як ён з'яўляецца, я не ведаю, бачыць таго не даводзілася. А вавёрачка ўзнікла на шэрым, злізаным мноствам падэшваў камені ганку, як чорцік. І падобная была на чорціка самага што ні ёсць сапраўднага. Такая ж брыдкая, хоць і кажуць, што брыдкіх дзяцей і звяроў не бывае. Ды гэта была сапраўды брыдкая вавёрачка, каюся, можа быць, брыдкая на мой погляд. Усё ж гэта была амерыканская вавёрачка. Маленькая, меншая за нашых, а можа, гэта мне таксама толькі падалося, срабрыстага колеру, пад музейны камень, з пушыстым хвосцікам-званочкам, прамавугольна-квадратнай мордачкай-чамаданчыкам і празрыстымі вушкамі-рожкамі. Брыдка цудоўная і бязмежна даверлівая, з жаўтлява-чырвонымі, вымольнымі вочкамі. Усё было ясна, яна выпрошвала арэшкі. Стаўшы на заднія лапкі, абапершыся на хвосцік, цягнулася да мяне лапкамі-далонькамі пярэднімі. Але арэшкаў у мяне не было. Іх не было і ў негра, служыцеля музея. Адзінае, чым мы маглі адказаць на просьбу звярка, — гэта проста ўсміхнуцца. Што мы і зрабілі. І папялушка зразумела нас, здагадалася, што абодва мы, белы і чорны, не прынцы, выгнуўшыся сваім гнуткім целам, скокнула з ганка, замяла свой след на мяккай зямлі пушыстым хвастом і шмыгнула пад густую навісь нейкай амерыканскай, невядомай мне газоннай раслінінасці.

А я, ашаломлены, таму што гэта для мяне сапраўды было падобна на пушкінскае: «Я помню чудное мгновенье...», з нейкай дзіўнай запаволенасцю сышоў з каменных прыступак ганка, адышоўся трошкі ўбок і застыў непадалёк ад радэнаўскага зялёна-бронзавага «Мысліцеля», быццам якаясьці недарэчная, карыкатурная копія яго. Усяго ж толькі хвіліну-другую назад я выйшаў з залы, запоўненай пакінутымі ў мармуры і бронзе святлом і думкай вялікага скульптара. Перад вачамі ўсё яшчэ стаялі вылепленыя ім, выстаўленыя насустрач мне з далёкага мінулага рукі. Можа быць, яго, Радэна, уласныя рукі, рукі генія, музыкі і майстравога, дужыя і разам з тым чуйныя, выбухова нервовыя. Сярод напачатку незразумелага мне мноства скульптур адна так і называлася «Рукі з магілы», прынамсі, так мне пераклалі яе назву. Яна больш за ўсё і ўразіла мяне. Не, не дасканаласцю формы ці нейкай асаблівай выразнасцю, пластыкай. У гэтым я, аб чым вельмі шкадую, не разбіраюся, не ўяўляю нават, чым павінен мяне ўражваць скульптар. Усхваляваў менавіта гэты, быццам непасрэдны зварот да мяне, жывога, — зварот з мінулага. Здаецца, я пачуў голас скульптара, які адышоў туды, у вечнасць. І больш нічога не стаў глядзець у музеі Радэна. Бяру на сябе смеласць, што я зразумеў, улавіў якоесьці імгненне з жыцця скульптара вось менавіта па гэтых яго руках. Хоць дагэтуль іх прамільгнула перада мною, як я ўжо гаварыў, вялікае мноства: рукі палкага каханка, што мілуюць жанчыну, як можа мілаваць яе толькі сапраўдны мастак, падманваючы сябе тым, што ён абдымае не жанчыну, а ўвесь зямны шар, усю планету; рукі творцы і адначасова вязня канцлагера, які дакрануўся да правадоў з токам высокага напружання пальцамі з абламанымі, а не выключана, што і згрызенымі ў тузе і пакутах пазногцямі. І вось дадатак да гэтых рук, што пільнуюць, праводзяць і ловяць імгненне, — гэтая прыйшоўшая ў госці ў музей Радэна вавёрачка, у кожным руху якой таксама спрасаваны час, незразумелы, няўлоўны, што ганяе мяне па маім і чужым мінулым і будучым.

Я павярнуўся тварам да ўвахода, паглядзець, ці не вярнулася зноў туды мая вавёрачка. На ганку, выставіўшы ўперад павуцiністыя шэра-срабрыстыя лапкі, быццам просячы дазволу зайсці, сядзелі ўжо дзве вавёрачкі. І якая з іх мая, я не мог угадаць. Дзве ці тры вавёрачкі кешкаліся ў абпаленай восенню палаючай залатой лістоце амерыканскіх клёнаў і клёнападобных дубоў, як жывое срэбра слізгалі між чырвоных гронак глогу, ласаваліся пераспелымі ўжо ягадамі, што ад самага лёгкага дотыку сыпаліся долу. Тыя ж ягады, схаваўшыся ў палаючым факеле лістоты, дзяўблі па суседстве з імі страката-чырванагрудыя невядомыя мне птушкі. Адна з таксама невядомых мне птушак, толькі не чырванагрудая, а чорная, з сіваваронкавым адценнем пер'я, з выгляду дык быццам наша галка, прысела ля фантанчыка-вадаспада, што журчаў за згорбленай у одуме спіною «Мысліцеля», і пачала піць. Услед за ёй туды ж скокнула вавёрачка. Я думаў, «галка» спалохаецца і паляціць. Але яна засталася, толькі крышачку скасавурыла чорнае бабуліна вока на няпрошаную госцю, хіснулася на тонкіх ножках, на паўкроку падалася ўбок, пастаяла, падумала, скранулася яшчэ на паўкроку, быццам саступаючы звярку месца, запрашаючы не пагарджаць кампаніяй, папіць вадзіцы разам. І яны ў ласцы і згодзе сталі піць гэтую вадзіцу. А я зноў замёр, баючыся скрануцца, парушыць гэтую згоду, хоць мне вельмі хацелася падысці бліжэй і паглядзець, як яны п'юць, лясная птушка і дзікі звярок, — ніколі ж не бачыў. Але я разумеў, што гэтага нельга рабіць, разбуру, заб'ю казку.

Усялякае набліжэнне, пэўна, мае сваю невідочную мяжу, за якой пачынаецца разбурэнне. І я, напэўна, неаднойчы пераступаў гэтую мяжу. Столькі разоў пераступаў, што і забыўся: дзеля чаго і навошта я гэта раблю. Праўду кажуць: добрымі намерамі высцелена дарога ў пекла. Але цяпер я быў асцярожны, старыя казкі ў наш час вельмі ж крохкія. І, на жаль, з цягам часу, з надыходам розных паляпшэнняў, павелічэнняў і амаль ці не дабрабыту яны робяцца яшчэ больш крохкімі, і ўсё аддаляюцца, аддаляюцца ад нас. Ды ў тую хвіліну мне падалося на момант, што я побач з казкай.

Я ўжо больш не шкадаваў аб дні, праведзеным у Філадэльфіі. І дарога сюды не здавалася мне ўтомнай, як было раней. А яна і праўда была ўтомная, не так сама дарога, як выпраўленне ў яе, пераддарожныя турботы і зборы, варажба амаль на кафейнай гушчы: ці то паедзем, ці то не, чаканне дазволу, таго, як паставяцца да гэтай паездкі амерыканскія ўлады. Справа ў тым, што пасля рэйк'явікскай, з такім нецярпеннем і надзеяй чаканай усімі сустрэчы ў вярхах тут, у Нью-Йорку, пасля кароткачасовага «пацяплення» зноў адчувальна «пахаладала». ААН, пры ўсёй, на першы погляд, яе аддаленасці ад таго, што адбываецца ў свеце, у многім пустапарожнасці большасці слоў і прамоў, вельмі чуйны барометр на самыя малыя змены палітычнага клімату. Адхіленне стрэлкі яго ў той ці іншы бок на сотыя ці нават тысячныя долі градуса імгненна змушае спрацоўваць невідочныя спружыны. Айсберг, які, здавалася б, надзейна запратораны, пахаваны ў шалупінні і бязважкасці амаль свецкага абмену славесамі, пустаслоўя, раптам выяўляе сябе, выплывае на паверхню, пакінуўшы свае таемныя глыбіні, аб'яўляецца, як той жа чорцік з табакеркі, паказвае міламу грамадству сваё сапраўднае аблічча. І робяцца відочныя не толькі памеры айсберга, але і існасць твару кожнага. І дзе-дзе, а ў ААН, самай міратворчай арганізацыі на зямлі, закліканай быць садружнай усім, не адчуць таго, куды пахінулася стрэлка, проста немагчыма, калі ты, вядома, не безнадзейна аглух і аслеп. І ўжо не толькі ў кулуарах, але і з аанаўскіх трыбун чутно пытанне: а ці не час падумаць пра перабазіраванне гэтай арганізацыі ў якую-небудзь іншую краіну. ААН робіцца няўтульна і холадна, зусім невыпадкова ў нетрах гэтай арганізацыі апошнім часам нарадзіўся нават такі тэрмін: вайна дыпламатаў. І яна пашыраецца, і холад робіцца ўсё больш адчувальным...

Так вось і аказалася пад пытаннем і магчымасць нашай экскурсійнай паездкі ў Філадэльфію. І мы, шчыра кажучы, ужо і не рваліся ехаць. Гэта было толькі пробным каменем перад экскурсіяй у Вашынгтон: дазволяць пабываць у Філадэльфіі, значыць, ёсць шанцы трапіць і туды. А паглядзець Вашынгтон, прызнацца, хацелася. Таму мы з такім нецярпеннем чакалі суботы.

Надышоў жаданы дзень, на нашу ноту, запыт аб выездзе з дваццаціпяцімільнай, вызначанай урадам ЗША зоны, адмовы не паступіла. Выехалі на досвітку, яшчэ не надта верачы, што едзем, так і не пазбавіўшыся ад напружанасці. Не пазбавіўшыся ад турбот мінулага напружанага тыдня ў ААН. А тыдзень быў мітуслівы, занятак нязвычны і, калі шчыра, прыкры мне. З ранку да вечара трэба было сядзець у ААН, а сяму-таму давялося сядзець і да позняй начы. Чакаецца, што працягласць сорак першай сесіі ў сувязі з фінансавымі цяжкасцямі ААН будзе скарочана на тыдзень-другі. У паасобных камітэтах аб'яўлены вячэрнія пасяджэнні. Наш, чацвёрты камітэт (пытанні дэкаланізацыі), які лічыцца адным з лёгкіх, канчаў сваю работу. Таксама вымотванне нерваў для такіх, як я, хто ўпершыню прымае ўдзел у рабоце ААН: нарады, прыняцце рэзалюцый, галасаванне. Наогул, хапала ўсяго. Спяшаючыся, у час галасавання я аднойчы нават памыліўся кнопкай: замест зялёнай націснуў чырвоную, узмакрэў ад хвалявання, як мыш. І ўпершыню, здаецца, адчуў, што такое сапраўдны сардэчны боль. І цяпер гэты боль быў ува мне. Боль і пачуццё адзіноты, прыгнечанасці, адасобленасці ад усяго, што акаляла мяне. Быццам знянацку абарваліся ўсе сувязі з навакольным светам...

Да ўсяго і дарога, пачатак яе, не спрыяла экскурсійнаму турысцкаму настрою, які ўзнікае, калі мы, дарослыя, вырываемся з дому і робімся дзецьмі, гатовы ўжо гарэзаваць і свавольнічаць. Выязджалі з Нью-Йорка праз тунель Лінкальна: дзве мілі, каля трох з паловай кіламетраў пад пралівам Гудзон. Бясконцае мора машын, быццам на гіганцкім буксіры, у тры шэрагі ідуць упрытык адна за адной. Вось дзе навочна відаць адначасова моц і немач індустрыяльнасці нашай цывілізацыі, чалавека, сіла і бяссілле яго розуму і рук. Метрапалітэнаўскія скляпенні, аглушальнасць і размах металаруднага ці вугальнага кар'ера. Дарога, як ток, ні выбоінкі, хоць, як кажуць, каціся. Мора агню — дзённага, тунельнага, і машыннага, папераджальна чырвонага — уперадзе, і светла-жоўтага — сустрэчнага патоку. Тысячы і тысячы машын, і ўсе яны быццам зліты ў адну, і механічнае сэрца іх б'ецца ў адзіным рытме, і хуткасць адна. І досыць прыстойная. Падземнае чэрава тунеля плюецца згусткамі рознакаляровага агню, грукоча і грыміць. Адчуванне такое, нібы сама зямля пастаўлена на механічную вось і накручвае на сябе машынны бясконцазвёнавы ланцуг, людзі ў салонах сваіх аўтамабіляў ужо даўно страцілі сваю зямную абалонку. Ці, наадварот, ад людзей засталася толькі абалонка, а самі яны ператварыліся ўжо ў здані. І мільгаюць перад вачамі, так і не паспеўшы матэрыялізавацца, белыя і чорныя галовы гэтых зданяў, сінюшна знявечаныя хуткасцю, быццам ты ўзышоў на нейкі круг Дантавага пекла. Часам здаецца, што сустрэчныя машыны абганяюць святло. Яны прамчаліся ўжо, а ў вачах — струмені іх хісткіх агнёў: зрокавая плынь току высокага напружання. Сам сабе ў мяккім лоне машыны ты здаешся нязграбнай кукалкай у кокане, эмбрыёнам, зародкам істоты, яшчэ неспазнанай светам. Думкі няма, яна толькі адно займаецца ў табе, прасцейшая, як мычэнне: адкульсьці вырвацца і кудысьці трапіць, з цемры на святло ці са святла ў цемру. І над галавой Гудзон з яго пірсамі, прычаламі, баржамі, яхтамі, параходамі, абсталяванымі пад рэстараны, шматтонныя кубаметры вады. Вады аздобленага, узятага ў бетон Гудзона над галавой зацуглянага, шалёнага мільённадужага табуна коней. Быццам усё чалавецтва асядлала гэтых коней, выправілася ў дарогу, у нязведанае, як і мы. І ў гэтай накіраванасці кожнага ўжо грызе прадчуванне нязведанага, кожны ўжо аддадзены дарозе, хуткасці, ганарыцца гэтай дарогай і хуткасцю, сваёй камфартабельнай машынай, кожны захоплены тым пачуццём адзінства натоўпу, якое ўсё ж, напэўна, інтэрнацыянальнае і аднолькавае ўсюды. І прабіты ў маналіце скалы тунель, скораныя, а таму ўжо недзе і пагарджаныя воды Гудзона над табой памнажаюць гэтае пачуццё. Кожны ў сваёй машыне-калысцы здаецца самому сабе ўсемагутным, амаль богам. Вакольны свет адкінуты, сувязі з ім абарваны, ты адда-

(Заканчэнне на стар. 14—15).

# Чаму рэдка кувае зязюля?

НЕАДНОЙЧЫ, бадай, і не аднаго мяне здзіўляла, як многа стала апошнім часам у нашых лясах сухастою, як рэдка можна пачуць куванне зязюлі — птушкі майго дзяцінства. Ды, наогул, птушыных спеваў амаль не чутно. Рэдка калі сустрэнеш у лесе і звера. Праўда, супрацоўніца аддзела па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі лесу Мінлясгаса БССР Аліна Іванаўна Рыжкова запэўніла мяне пры нашай сустрэчы, што так здаецца толькі людзям недасведчаным. Зразумела, птушак, звяроў, сухадрэвы я не лічыў. Улік звяроў — справа складаная, працаёмкая, дзічына хаваецца ад чалавека, пастаянна перамяшчаецца, колькасць яе мяняецца нярэдка па некалькі разоў за год: ні авіяцыя, ні зімовы маршрутны ўлік, ні апытанні паляўнічых-прамыславікоў не могуць даць дакладных лічбаў. І ўсё ж нават прыблізны ўлік дае падставу вучоным зрабіць вывад, што пры сённяшніх умовах існавання ў нашай краіне могуць зусім знікнуць тыгры, белыя мядзведзі, алені, ласі. Максімальныя шанцы для выжывання маюць грызуны (у прыватнасці, мышы), якія хутка размнажаюцца, лёгка ўжываюцца з чалавекам, і ў той жа час не маюць гаспадарчай каштоўнасці.

З птушак найбольш дакладна падлічаны пералётныя: дзікія гусі, качкі. Пра лясных крылатых насельнікаў, — запэўніла А. І. Рыжкова, — вядома, што іх даволі многа і ніякай пагрозы з боку чалавека для іх няма. Мае трывогі пра зязюлю, маўляў, беспадстаўныя. І вывады заолагаў наконт таго, што на зямлі, калі не ахоўваць усё жывое ад вынішчэння, могуць застацца адно толькі мышы, вароны, з насякомых — тараканы, з раслін — дзьмухаўцы, работнікі лясной гаспадаркі лічаць несур'ёзнымі. Але яны павінны ведаць, што лес сам — найлепшы ахоўнік птушак, насякомых, раслін, земнаводных. Вядома яго выключная роля ў падтрыманні раўнавагі прыродных сістэм. Лясы паглынаюць вуглякіслы газ і ўзнаўляюць кісларод, нават змякчаюць клімат, аберагаюць глебы і рэкі.

Лес — адзін з важных аб'ектаў працы чалавека. Ён мае вялікае аздараўленчае значэнне, забяспечвае шматлікія патрэбы грамадства, корміць, апранае і лечыць. Неацэнная яго роля як жывога фільтра забруджанага паветра. Зусім нядаўна лічылася, што каля трох чвэрцяў кіслароду ў біясферу пастаўляюць водарасці з мораў і акіянаў. Але апошнім часам вучоныя свету ўсё больш схіляюцца да таго, што галоўным пастаўшчыком кіслароду з'яўляюцца лясы. Вучоныя падлічылі, што калязямная прастора штогод не даатрымлівае каля дзесяці мільярдаў тон так неабходнага нам кіслароду. Значыць, сталі горш працаваць нашы лясныя фільтры?

— Значна горш! — лічыць начальнік упраўлення аховы лясоў Міністэрства лясной гаспадаркі І. Г. Мыслейка. — У атмасферу ў свеце штогод выкідваецца больш як два мільярды тон вуглякіслага газу і за мільярд тон іншых шкодных злучэнняў. Людзі за гэта плацяць здароўем, велізарнымі матэрыяльнымі стратамі. ЗША шкодныя выкіды ў паветра абыходзяцца ў пяцьдзесят мільярдаў долараў штогод. Ад забруджвання гінуць дрэвы, цэлыя лясы... У апошнія гады гэты працэс нарастае лавінападобна. У ФРГ, напрыклад, у 1982 годзе было выяўлена каля васьмі працэнтаў хворых лясоў. Праз год лічба гэтая ўзрасла ажно ў пяць разоў. Цяпер тут больш чым палавіна лясоў пашкоджана рознымі хваробамі. Прагнозы вельмі несуцяшальныя. Да канца стагоддзя будзе знішчана палавіна існуючых лясоў, — расказвае Іван Георгіевіч. — Некаторыя краіны ўжо цяпер практычна не маюць лесу. Напрыклад — Эфіопія. На пачатку стагоддзя амаль палову яе плошчы займалі субтрапічныя лясы. Цяпер іх засталося каля чатырох працэнтаў ад тэрыторыі сушы. Клімат стаў жорсткі, сухі. Частыя неўраджаі. У выніку — голад. А каб узнаўляць вільготныя субтрапічныя і трапічныя лясы, патрэбны тысячагоддзі!

Але вернемся да сваіх родных пушчаў і бароў, — працягваў І. Мыслейка. — У цэлым, як лічаць у Міністэрстве лясной гаспадаркі рэспублікі, стан нашых лясоў здавальняючы. Праўда, летась вялікія страты лесаводам прынеслі пажары. Ад неасцярожнага абыходжання з агнём, ад іскраў машын і механізмаў, якія працуюць на дзялянках, ад удараў маланак. Засушлівае лета і ўраганныя вятры спрыялі стыхіі. Шмат яна нарабіла бяды, хоць людзі паўсюдна праяўлялі сапраўдны гераізм. Не першы раз выявіла стыхія слабое тэхнічнае аснашчэнне нашых лясных пажарных дружын. Вельмі мала ў лясгасах спецыяльных машын. Ды і тыя мінулым летам у большасці сваёй выкарыстоўваліся не па прызначэнні.

План лесаахоўных работ міністэрства, аднак, перавыканала па ўсіх паказчыках. Хораша глядзяцца справаздачы і побач з імі ведамасці на атрыманне прэмій. Усё, як кажуць, на законных падставах. А як жа сябе пачувае лес?

І тут мой субяседнік шчыра прызнаецца, што хваліцца няма чым. Называе лічбы 1985 года, бо вынікаў за мінулы год яшчэ няма.

За 1985 год у рэспубліцы было выяўлена яшчэ сорак пяць тысяч гектараў лесу, пашкоджаных рознымі захворваннямі. Я кажу «яшчэ», бо ўвогуле пашкоджанага хваробамі лесу ў нас сто пяцьдзесят тысяч гектараў. Лютуе каранёвая губка, якая ўзбуджае загніванне каранёў і ствалоў хваёвых парод. У Мінскай вобласці, напрыклад, ёю пашкоджана трыццаць тры тысячы гектараў. Дзевяноста дзевяць працэнтаў ад усіх выяўленых ачагоў захворванняў!

Няма лекаў ад гэтай губкі? Ёсць! І вельмі надзейныя. Бяроза, напрыклад. Родная наша красуня вынішчае каранёвую губку. Мінскія лесаводы летась пасадзілі яе толькі на плошчы ў сорак гектараў. На трыццаць тры тысячы хворых лясоў! Адно дрэва на восемсот гектараў!

Начальнік упраўлення лясной гаспадаркі Мінскага аблвыканкома В. Сманцар апраўдваецца:

— Пасадка бярозы ў лясных дзялянках — вельмі працаёмкая работа. Ручная ў асноўным...

Але ж на бяду заўсёды наступаюць усім людам. Ці каранёвая губка, якая вынішчае тысячы гектараў лесу штогод, яшчэ не бяда? Возьмемся тады аднаўляць лес, як падзьмуць сухія спапяляючыя вятры?

У Беларусі раней не было аднародных дуброў, гаёў, пушчаў. Заўсёды пераважаў змешаны лес. Бяроза і асіна былі папярэдніцамі хваёвых дрэў. Мы ж яшчэ ў перадваенныя гады распачалі сасновыя пасадкі. Роўненькімі шнурочкамі, як сад (каб, можа, машынамі абіраць шышкі?). У кнігах па доглядзе лесу раілася ачышчаць пасадкі ад іншароднага падлеску, што яшчэ, дарэчы, робіцца і цяпер у многіх лясгасах. Сваімі рукамі знішчалі бярэзнікі! Значыць, каранёвую губку прынёс у лес чалавек! Яму і змагацца з ёю. І не адкладваць барацьбу на наступнае стагоддзе...

Семнаццаць тысяч гектараў лесу летась адваявалі лесаводы ў хвароб біялагічным спосабам. Частку — прыцягненнем у зоны захворванняў птушак. Вывешвалі на дрэвах шпакоўні. У іх пасялялася крылатае племя, нішчыла шкоднікаў.

Шмат карысці прыносіць перасяленне і рассяленне мурашоў, да якіх толькі ў апошнія гады лесаводы пачалі ставіцца з павагай. Выклікае вялікую занепакоенасць паведамленне І. Мыслейкі, што лесаводы ў барацьбе са шкоднікамі пачалі прымяняць ядахімікаты. Зразумела, што ў сельскай гаспадарцы чалавек сёння яшчэ не можа цалкам без іх абысціся. Барацьба са шкоднікамі—гэта барацьба за ўраджай. Але ж лес... Складанейшы жывы арганізм! А ядахімікаты атручваюць усё: мікраарганізмы, расліны, жывёлу, насякомых, у тым ліку і пчол — асноўных апыляльнікаў культурных і дзікіх траў, многіх раслін. Некалі ў Злучаных Штатах Амерыкі пасля апрацоўкі лясоў гінула да дзевяноста сямі працэнтаў птушак і іншых насельнікаў лесу. Зусім звяліся там белагаловыя арланы і кондары. Ад ядахімікатаў, праз складаны ланцуг харчавання, гінуць фазаны, шэрыя курапаткі, дразды, журавы, гусі, галубы, вожыкі, зайцы, многія дробныя птушкі і іншыя карысныя жывёліны. Назаўсёды змаўкаюць чароўныя зязюлі...

«Чалавек, — пісаў амерыканскі вучоны Роберт Мак-Кланг, — можа жыць без кітоў, мядзведзяў, арлоў, жураваў і аўсянак. Яго існаванне ад іх не залежыць. Але калі чалавек стане абыякавым да пытання «Жывуць яны ці не?», то ён перастане быць чалавекам. Знікненне нашых суседзяў павінна служыць перасцярогай: мы таксама можам знікнуць».

Лес — блізкі сусед чалавека. І ён гіне літаральна ў нас на вачах. Пашыраецца кругловіна вынішчаных лясоў вакол Полацкіх хімкамбіната і нафтаперапрацоўчага завода. Многа «чырвоных шапак» на верхавінах соснаў і ялін загараецца што-

# Паездка ў Філадэльфію

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13).

ляешся ад яго з хуткасцю кручэння колаў машыны.

Але варта ледзь толькі ўзнесціся, як гэты адрынуты табою свет уладна нагадвае пра сябе. Рэчаіснасць вяртае цябе на зямлю куды хутчэй, чым хуткасць тваёй машыны. У дзікім галопе аўтамабільнага табуна раптам з'яўляецца нервознасць, заўважаецца нейкі збой, прыглушаецца шоргат яго абутых у гуму капытоў. Прыпынак, нешта здарылася ўперадзе. Кароткі, амаль імгненны, але ён доўжыцца, як век. Адразу робіцца цяжка дыхаць. Не хапае таго самага, адзінага, надзённага глытка паветра. І высокія скляпенні выкладзенага пліткай тунеля, здаецца, апускаюцца на дах машыны, абціскаюць цябе маўклівым і грозным змрокам падзямелля, магілай. І адразу нагадвае аб сабе сэрца, пачынае неспакойна калаціцца.

Вадзіцель уключае кандыцыянер. Але яго механічныя жабры не паспяваюць ачышчаць паветра, выдыхаемае аўтамабілямі. Кандыцыянер, няйначай, гоніць у салон чысцейшы $CO_2$ — вуглякіслы газ. Мы просім выключыць яго: год ці два назад у Мінску ў хаду былі казкі пра гібель людзей ад выхлапных газаў. А ўнутраная памяць у тунелі абвострана гранічная, як заўсёды ў хвіліну яўнай ці ўяўнай небяспекі і ўласнага бяссілля. А кранацца ні на крок уперад, ні назад, ні ў бок немагчыма. Мы нібы кансерваваныя шпроты ў бляшанцы. Нішто ў механізаваным падзямельным натоўпе і перад светам, адно толькі цені яго, здані, створаныя магутнасцю чалавечага духу, зняволеныя ім жа і па ўласнай ахвоце ў чаднае падзямелле.

І ўсё далейшае, што чакала нас на двухсоткіламетровай дарозе з Нью-Йорка, успрымалася скрозь прызму гэтай прызіднасці і хісткасці чалавечага існавання, яго ненадзейнасці. Так было: суцэльнае мільгаценне восеньскіх шматкалёрных лясоў, аўтамабіляў, дарог і раз'ездаў, маляўнічых вітрын, не менш маляўнічых карцін у музейных галерэях, да таго самага імгнення, пакуль не выскачыў на ганак гэты амаль ручны, далёкі ад маіх зямных клопатаў чорцік-вавёрачка і не падміргнуў мне карычневым вокам надзеі. Суцэльны калейдаскоп, механічная мешанка, вінегрэт фарбаў і гукаў, якія не закраналі свядомасці, не абуджалі аніякіх пачуццяў у адказ.

Гэтаму самнамбулічнаму майму стану былі і іншыя, больш зразумелыя і простыя тлумачэнні. Мне ўпершыню выпала такая вось доўгая разлука з роднай зямлёй і маімі блізкімі. Я выправіўся ў далёкую дарогу, не паспеўшы яшчэ атрэсці з сябе стому і напружанасць пасля вялікай, што задоўжылася на чатыры гады, знясільваючай, амаль бесперапыннай, з дня ў дзень, работы, якая, трэба сказаць, даканала мяне, давяла да краю, да галюцынацый. Мне пачалі мроіцца пахі. Я пачаў чуць пахі, якіх не было, не існавала ў прыродзе. Праз гэта з цяжкасцю мог ездзіць у метро, заходзіць у магазіны, пад'езды дамоў і жылыя памяшканні. Адразу ўзнікала адчуванне гарчэчы на вуснах, паветра выдавала перанасычаным чамусьці крэазотам, адусюль сыходзіў дух тлену, адчувалася прысутнасць нябожчыка, набліжэнне пахавання. І лес, любы сэрцу і воку, у якім я адрозніваў дыханне кожнага з дрэў паасобку, чуў, як сапуць сярод летняй спякоты векавыя дубы, як тонка патыхае ад несправядліва пакрыўджаных лазнякоў і асіннікаў гарчэчынкай. Гэтае адчуванне іх і маёй горычы ўзмацнілася пасля Чарнобыля, што захапіла і маё Палессе, родныя мне мясціны. Палессе, тыя ж Хойнікі, дзе прайшло маё дзяцінства, дзе ўсё мне было такое дарагое. Хойнікі, непадалёк ад якіх была магіла маёй маці, што загінула ў часе вайны ў дваццаць пяць гадоў, сястрычкі, якой не было яшчэ і двух гадоў, што замерзла ля мёртвай маці з заледзянелымі, прымерзлымі да твару слязамі — праклёццем гэтаму свету і бясконцым у ім войнам, фашызму.

Чарнобыль, атамны тыгр, паказаўшы адно толькі кончык хваста, адрэзаў цяпер мяне і ад гэтай магілы. На развітанне, перад тым, як сесці ў самалёт і перамахнуць акіяны, я ўсё ж пабыў там. І сярод лясных ціхіх могілак, перад жалобным і сціплым абеліскам, дакор мне, сыну і брату, пад пошум векавых соснаў, маўчанне схіленых ля брацкай магілы бетонных сцягоў, стоеных ля ствалоў дрэў чорных сялянскіх крыжоў не ўпершыню, але з патроенай сілай адчуў я, што свет гэты, у якім і сёння працягваюць паміраць дзеці, часам яшчэ і ненароджаныя, у чэраве маці, сапраўды не з лепшых. І атам, нават мірны, які нясе нам цяпло і святло, небяспечны і страшны. І я пайшоў ад роднай мне магілы з атамнай горыччу на вуснах і на душы. Гэта было мне сястрыно і матчына блаславенне перад дальняй дарогай.

Я не забываўся на яго ў ззяючых і адначасова строгіх залах ААН, дзе гаворка ішла ўсё пра тое ж, перад чым спыніўся сёння свет, аб тым, чым ён можа скончыцца, калі не спыніцца гонка ўзбраенняў, калі неба з яго зоркамі і месяцам для закаханых ператворыцца ў арэну зорных атамных паядынкаў. А мяркуючы па тым, як сёй-той, не баючыся і не саромеючыся ні сонечнага, ні месячнага святла, не слухаецца ніякіх угавораў і папярэджанняў, гэта можа здарыцца. Можа здарыцца, што не будзе больш на нашай зямлі ні родных, ні чужых магіл, і ва ўсім сусвеце не застанецца ад нас ні памяці, ні следу, толькі праклятце зор.

І пакінуўшая было мяне атамная горыч зноў вярнулася. Я адчуў яе зноў на вуснах у музеі мастацтваў у Філадэльфіі, дзе, здавалася б, усё павінна быць наадварот. Пікасо, Ван Гог, Шагал і многія-многія іншыя творцы цудоўнага павінны былі настройваць на добрае, мешаніна стыляў і эпох, вякоў і пакаленняў падказвалі думку не аб пераемнасці і вечнасці, не аб перамозе жыцця, а аб яго тленнасці і крохкасці. Пачуццё небяспекі, трывогі падспудна выспявала ўва мне, калі я глядзеў гэтак супакойваючых раней імпрэсіяністаў, якіх я таксама разумею, проста люблю, быць можа, як апошніх рамантыкаў на гэтай шматгрэшнай зямлі, якія ўказваюць нам сваім неўтаймоўным пэндзлем, куды і да чаго мы павінны імкнуцца, папярэджваюць нас сваёй нязбытнай і нястомнай любоўю да жыцця ад замаху на саміх сябе. Гэты замах абрынуўся, угледзеўся ў мяне з усёй бязлітасцю, на якую толькі здатны рэалізм, бясстраснае вочка фотаапарата.

У зале, дзе размешчаны былі фатаграфіі, што расказвалі пераважна пра Нагасакі, я ўпрытык наблізіўся да аблічча зямной бяды і няшчасця. Яно, аблічча гэтае, паўстала перада мною ў вобліку пажылой жанчыны-японкі, на першы погляд, спакойнай і пазбаўленай эмоцый, таму што твару ў яе не было. Падабенства яго, маска, назаўсёды прыварана да твару атамным выбухам сорак гадоў назад. Я адхіснуўся ад яе. Але наступная фатаграфія, куды, шукаючы паратунку, кінуўся мой пагляд, была яшчэ страшнейшая, хоць яна апавяшчала мне аб самым радасным на зямлі. Аб нараджэнні, аб з'яўленні на свет новай жывой істоты. Ды істота гэтая была сапраўды пачварная, нараджаўся не чалавек і не звер, а тое, чаму яшчэ, напэўна, няма назвы, няйначай, сам, што прайшоў праз атамнае гарніла, дзаццаць першы век, трэцяе тысячагоддзе. Яно яшчэ было звязана з маці-чалавекам пупавінай, але само ўжо не было чалавекам. Гэта быў прышэлец, прадвеснік і суддзя. І, скаваны жахам, я не мог адвесці ад яго вачэй. Дзеўчынёха-амерыканка, прабягаючы міма, прыпынілася ля мяне, пра-



год у розных лясгасах. Больш за сотню дрэў з парыжэлым пыльнікам хіліцца долу ў парку імя Чэлюскінцаў у Мінску. І стратам няма канца...

Дадала клопатаў і загадак лесаводам чарнобыльская аварыя. Разам з эколагамі, батанікамі, заолагамі яны павінны разабрацца, як радыяцыя паўплывае на прыроду, на лес з яго шматлікімі насельнікамі. Вось выказванне акадэміка АН УССР А. Градзінскага: «Вясновы майскі лес цудоўна выручыў нас пад час чарнобыльскай аварыі. Маладыя клейкія лісцікі, пыльнік, галінкі, кара, апалая падсцілка, кусты, трава — усё паглынала шкодную аэразоль, якую наганялі настойлівыя вятры, але таму і радыёактыўны фон у лесе ў тры—чатыры разы больш высокі. Думаецца, што сур'ёзных вынікаў гэта мець не будзе. Для многіх арганізмаў такая радыяцыя нават знаходзіцца ў зоне неспецыфічнай стымуляцыі...»

Час пакажа. Глыбокія даследаванні раскрыюць тайны ўздзеяння радыяцыі на прыроду, на жывыя істоты, на чалавека. Начальнік жа ўпраўлення лясной гаспадаркі Гомельскага аблвыканкома Б. І. Анішчанка, назіраючы за лесам, трывожыцца:

— На стан пасадак у трох лясгасах вобласці ў будучым, пэўна, акажуць уплыў радыёактыўныя рэчывы...

Барыс Іванавіч адзначыў, што ў той зоне ярка цвілі сады і кветкі, добрараслі дрэвы і травы. Адно толькі — амаль не чутно кування зязюль.

У жніўні мінулага года адбылося чарговае пасяджэнне камісіі Прэзідыума Савета Міністраў СССР па ахове навакольнага асяроддзя і рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў, дзе была звернута ўвага на неабходнасць умацавання кантролю за выкананнем міністэрствамі, установамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі краіны патрабаванняў закона «Аб ахове атмасфернага паветра». І ў нас распрацоўваюцца меры па паляпшэнні будаўніцтва і павышэнні эфектыўнасці прыродаахоўных аб'ектаў. Але ці ж стала лягчэй лясам і яго насельнікам каля Наваполацка, Гродна, Магілёва, Гомеля, Мазыра і Салігорска?

Вартая ўхвалы і падтрымкі прапанова міністра лясной гаспадаркі рэспублікі Г. А. Маркоўскага аб правядзенні маніторынга (нагляду за прыродным асяроддзем) на Беларусі, з удзелам Рэспубліканскага камітэта па ахове прыроды, Аграпрома, Гідраметцэнтра, адпаведных аддзелаў міністэрстваў меліярацыі і воднай гаспадаркі, лясной гаспадаркі і прыродаахоўных службаў прадпрыемстваў хіміі. Але справа з маніторынгам, здаецца, адкладаецца на няпэўны час? Чаму? Давядзецца спыняць работу некаторых прадпрыемстваў? Дык жа трэба спяшацца ратаваць прыроду, бо яна не даруе нашага раўнадушша.

Падзяляю клопат Георгія Андрэевіча аб тым, што нам трэба неадкладна і ўсебакова пачынаць вывучаць уплыў прамысловага атмасфернага і глебавага забруджвання на лясныя біяцэнозы. Адно міністэрства лясной гаспадаркі гэтага зрабіць не зможа. А можа, у тых, хто адказвае за лес, за прыроду, за наша жыццё, ёсць іншыя меркаванні? Магчыма, падрыхтавалі яны ўжо абгрунтаваны адказ на пытанне: чаму рэдка кувае зязюля?

Валянцін МЫСЛІВЕЦ.

# УВАГА—КОНКУРС!

**З мэтай паляпшэння якасці і павелічэння колькасці інфармацыйных і бібліяграфічных матэрыялаў у прэсе, перадачах радыё і тэлебачання па прапагандзе літаратуры, прысвечанай ажыццяўленню рашэнняў XXVII з'езда КПСС і XXX з'езда КПБ, перабудове ў эканамічным і сацыяльным жыцці грамадства; літаратуры, якая прапагандуе савецкі лад жыцця, калегія Дзяржкамвыда БССР, праўленні Саюза журналістаў БССР, Белкаапсаюза і Добраахвотнага таварыства аматараў кнігі пастанавілі правесці ў 1987 годзе рэспубліканскі конкурс на лепшую прапаганду кнігі сродкамі масавай інфармацыі. У конкурсе прымаюць удзел рэдакцыі раённых і аб'яднаных, абласных і рэспубліканскіх газет, часопісаў, абласных і рэспубліканскіх камітэтаў радыёвяшчання і тэлебачання, БЕЛТА.**

**Пераможцамі будуць прызнаны тыя рэдакцыі газет, часопісаў, БЕЛТА, радыёвяшчання і тэлебачання, якія забяспечаць рэгулярную публікацыю інфармацыйных і праблемных матэрыялаў пра новыя выданні і падрыхтаваныя да друку, а таксама аб рабоце выдавецтваў, аб праблемах прапаганды кнігі і кнігараспаўсюджання.**

**Пры падвядзенні вынікаў конкурсу асаблівая ўвага будзе звернута на аператыўнасць прапаганды твораў класікаў марксізму-ленінізму, выданняў, накіраваных на ажыццяўленне рашэнняў XXVII з'езда КПСС і XXX з'езда КПБ, Пленумаў ЦК КПСС, КПБ, што садзейнічаюць паскарэнню навукова-тэхнічнага прагрэсу, укараненню перадавога вопыту ў народнай гаспадарцы.**

**Перыядычнасць публікацый для рэспубліканскіх і абласных газет — не радзей аднаго разу на тыдзень, для раённых і аб'яднаных газет і радыёвяшчання—не радзей аднаго разу ў два тыдні.**

**Для пераможцаў конкурсу ўстанаўліваюцца наступныя грашовыя прэміі.**

**Для рэспубліканскіх газет, рэдакцый Дзяржтэлерадыё БССР і БЕЛТА: адна першая—150 рублёў, адна другая — 120 рублёў, адна трэцяя—100 рублёў; для рэдакцый часопісаў: адна першая—120 рублёў, адна другая — 100 рублёў, адна трэцяя—80 рублёў; для рэдакцый абласных газет і аблрадыёкамітэтаў: адна першая — 120 рублёў, адна другая—100 рублёў, дзве трэція—па 80 рублёў кожная; для рэдакцый раённых і аб'яднаных газет, раённага радыёвяшчання: дзве першыя па —100 рублёў кожная, тры другія—па 80 рублёў кожная, пяць трэціх—па 60 рублёў кожная.**

**Пераможцы ўзнагароджваюцца таксама Ганаровымі граматамі арганізацый-заснавальнікаў конкурсу.**

**Абласныя конкурсныя камісіі прадстаўляюць журы сістэматызаваныя выразкі (у папках) з абазначэннем дат публікацый у газетах і спісы матэрыялаў абласнога радыёвяшчання і тэлебачання. Разам з імі прадстаўляецца кароткая даведка аб арганізацыйна-масавай рабоце, рашэнне камісіі аб заахвочванні лепшых рэдакцый.**

**Рэдакцыі рэспубліканскіх газет і часопісаў прадстаўляюць у папках аналагічныя выразкі публікацый, а работнікі Дзяржтэлерадыё і БЕЛТА—спісы матэрыялаў з кароткай тлумачальнай запіскай.**

**Матэрыялы прадстаўляюцца на адрас: 220004, Мінск-4, пр. Машэрава, 11, Упраўленне кніжнага гандлю.**

**Тэрмін прадстаўлення матэрыялаў — да 1 лютага 1988 г.**

сачыла за маім паглядам і засмяялася, пырснула смехам у далоньку так знаёма, па-вясковаму, па-беларуску, што я здрыгануўся. Няшчасная, яна палічыла, напэўна, мяне якім-небудзь сексуальным маньякам. А я ж бачыў цяпер на фатаграфіі яе, гэтую дзеўчынёху з Філадэльфіі і з роднага майго Палесся, з тых жа Хойнікаў, дзеўчынёху, якой яшчэ наканавана раджаць.

І пакінуўшыя было мяне ў мітульзе аанаўскіх дзён пахі абрынуліся з новай сілай. Я не мог больш глядзець і ўціхаміравацца шэдэўрамі сусветнага мастацтва, сабранымі з усяго свету ў залах філадэльфійскага музея мастацтва. Цудоўнае больш не ўспрымалася мною. Хоць, усё ж, ля паасобных карцін, сам таго не ўсведамляючы, я зведваў часам пачуццё якогасьці адпачынку, фарбы супакойвалі, нават накіданыя ў неверагоднай мешаніне, быццам ужо ў агоніі, абстракцыяністамі. Пачуццё трывогі выклікалі рэчы, прадметы быту, таксама ў мностве выстаўленыя ў залах музея. Рэчы людзей, якія даўным-даўно пакінулі гэты свет. Пры ўсім іх часам лоску на іх, здавалася, ляжыць адзнака бездагляднасці, стоеная журба тых, каму яны ў свой час належалі. Можа, яны хацелі штосьці перадаць, сказаць недагаворанае на гэтым свеце іх гаспадарамі, папярэдзіць. Можа быць. Я не мог больш цярпець іх нямога крыку, а часам крыклівай пышнасці. Ці не гэтая пышнасць, пагоня за ёю і загналі нас у кут, прынялі і паставілі на край бездані.

Іардан Радзічкаў, балгарскі пісьменнік-публіцыст, не так даўно выступаючы ў «Литературной газете», пісаў, што пісьменнікі і журналісты нагадваюць яму дзяцей, што сядзяць наперадзе паравоза, які імчыцца поўным ходам. Перад паравозам — бездань, дзеці бачаць гэтую бездань і крычаць. Гэты крык, якога не чуе свет, нарастаў і ўва мне. І вось толькі цяпер абарваўся, заціх перад уваходам у музей Радэна. Вавёрка і галка, звер і птушка, на заходзе сонца, у апошніх, што ўжо не грэюць зямлю, праменнях яго ў дзіўным і ніколі не бачаным мною яднанні, схаваўшыся ў цені радэнаўскага «Мысліцеля», пілі ваду. Птушка — па-сялянску, як жнейкі ў спякоту сярод іржышча, задзіраючы галаву і смакуючы кожны глыток, быццам палошчучы горла і радуючыся кожнай кроплі ратавальнай вільгаці, нібы гэта не вада, а жыватворны нектар: вавёрачка — арыстакратычна, спешчана, хлебчучы хуткім і вёрткім ружовым пялёсткам языка. І негр, служыцель музея, з аднаго боку, і я — з другога, стаялі, застыўшы ў нерухомасці, баючыся парушыць іх яднанне і баляванне. І ўсё бачанае мною, сфатаграфаванае вокам, але прайшоўшае міма свядомасці, ажыло зноў, раскрылася, набыло не толькі колер і форму, але і гук, мову.

Дарога — велізарнае рэчышча для ўсіх, хто апынуўся ў ім, пусціўся ў нязведанае. Сотня вёрст амаль бясконцага лесу, палаючага ў барвах цудоўнай, ціхай і сонечнай амерыканскай восені. Восень і гэты лес, на першы погляд, былі чужыя мне, беларусу. Але гэта толькі на першы погляд, а пры мінімальным набліжэнні аказалася, што я ўжо дзесяткі разоў бачыў, пражыў і зведаў і гэты лес, і такую ж восень з яе неўтаймоўнасцю фарбаў, мудрай сівізной і ападаючай меддзю. Сотні і сотні вёрст вось такой залатой тайгі, а амерыканская восень на самай справе была падобная на таежную восень у Сібіры, у Горнай Шорыі, дзе на горных кражах палаў, быццам адлятаў у ледзь гаркаватай тузе бабінага лета ў цёплыя краіны, цягнуў залатыя кроны да сонца лістоўнічны лес, што разлёгся далёка за небакрай. І я ішоў па гэтым лесе і восені з рэчмяшком геолага за спіною яшчэ зусім-зусім зялёны і, не заўсёды разумеючы, праз што і чаму, бясконца шчаслівы і радасны, недзе ў глыбіні душы, зноў жа неўсвядомлена, спадзеючыся і верачы, што так будзе заўсёды і вечна. І наперадзе ў мяне таксама вечнасць.

Таежны, лістоўнічны лес з прагалінамі чорна мігатлівых скал па дарозе ў Філадэльфію змяняўся бязмежнасцю поля, над якім кружыліся, збіваючыся ў чароды, жыруючы апошні раз, адлятаючыя на поўдзень птушкі. У небе, рускім клінам уразаючыся ў сонечны дыск, шэрым воблакам плылі гусі. І іх гартанная птушыная мова была блізкая і зразумелая мне. Гэта быў голас развітання, птушкі блаславілі зямлю, якая дала ім жыццё, абяцалі вярнуцца і доўжыць свой род, пакуль будзе доўжыцца і множыцца род чалавечы, пакуль будуць гэтыя палі і лясы, рэкі і долы. На полі сям-там яшчэ ішла работа, сярод шэрай голай зямлі, як у нас у Беларусі на бульбянішчы, жаўцелі, выгінаючыся крутымі бакамі, гарбузы, такія любімыя ў нашых вёсках, падобна, не менш любімыя і тут. Усё вакол пазнаецца, усё паўтараецца. Поле змянялі раўнінна-хвойныя пералескі. І гэта таксама было мне знаёма. Я ж з маленства ведаў і любіў хвойнікі, абышоў, абмацаў босымі, у цыпках, да самай зімы незагойных драпінах нагамі ўсе шышкі ў іх, пасвячы кароў адразу ж пасля жорсткай і страшнай, толькі што адгрымеўшай вайны ў родным мне Палессі. І пра сасну, што расце там, далёка за акіянам, у Беларусі, і тут, паміж Нью-Йоркам і Філадэльфіяй — якая розніца, — я ведаю калі не ўсё, дык вельмі многае. Я сам іх саджаў. Яны пацягнуліся да сонца, выпырхнуўшы з маіх далоняў. А тыя, што былі пасаджаны раней, равесніцы майго бацькі, схавалі і ўратавалі майго ж бацьку, калі ён пайшоў у партызанскі атрад ваяваць з фашыстамі. Яны прынялі на сябе не адзін снарад, не адзін асколак і кулю. І калі, праз сорак гадоў пасля вайны, у партызанскі лес прыйшлі лесарубы з піламі, сосны адстаялі і сябе, столькі ў іх было загоеных у драўніне асколкаў і куль. Сталёвыя зубы піл не маглі ўзяць іх. Я ведаю не толькі, якая пахучая і смачная разамлелая на сонцы жывіца, але і тое, што дрэва гэта можа накарміць мяне. Мы, пастушкі, дзеці ўскраіны невялікага палескага гарадка, у галодны і халодны пасляваенны час ламалі выкінутыя маладымі сасонкамі ў пару цвіцення далікатныя макаўкі, смажылі на вогнішчы і елі, грызлі маладымі і моцнымі зубамі, поўнячыся жыццём, што адкрывалася перад намі, жыццём мінулым і будучым, у якім ніколі больш не будзе ні войнаў, ні холаду, ні голаду. Свет, што ледзь расчыніў перад намі дзверы, быў вялікі і агромністы. І ніякай яшчэ бездані ўперадзе не адчувалася. Мы былі багацеямі, крэзамі. Паветра было чыстае, без аніякага прымеску горычы. Неба называлася небам, зоркі — зоркамі. Пад імі мы сварыліся і мірыліся, любілі. І цень аніякай САІ не падаў ні на зоркі, ні на нашу любоў. Ляталі па лесе галкі, іншы раз мы іх лавілі, кармілі з рук і вучылі гаварыць. І галкі прывыкалі да нас і хадзілі за намі, нібы сабачаняты, пакрыўджанымі хрыплымі галасамі выкарквалі нашы імёны, патрабуючы ўвагі і харчу. Скакалі па дрэвах вавёркі, стракаталі і дражнілі нас, звесіўшыся ўніз галавою з дрэва, быццам заманьвалі да сябе ў дупло. Дзяліліся вясною з намі арэхамі, якія нарыхтоўвалі восенню. Нарыхтоўвалі і, дзіравыя галовы, забывалі. А мы, прыгнаўшы ў лес кароў, часам знаходзілі гэтыя забытыя вавёркамі арэхі. Лускалі іх — падарунак лёсу і любых, што песцяць сэрца і вока, звяркоў. І вось адзін з гэтых звяркоў знайшоў і, як у дзяцінстве, адарыў мяне ціхай радасцю на чужыне. Жыві вечна, вавёрачка, родная чужаземка. Я так хачу. Хачу, каб радасць пазнавання, пазнання была вечнай, каб яе зведалі і тыя, хто яшчэ не нарадзіўся, хто народзіцца праз стагоддзі. І гэта няпраўда, што я сказаў, быццам ты брыдкая: звяры і дзеці цудоўныя заўсёды. Нічога больш дасканалага на гэтай планеце, у гэтым не з лепшых свеце ні прыродай, ні чалавекам не створана. Вечны «Мысліцель» Радэна, ля якога ты зараз лускаеш арэшкі і п'еш ваду. Ты мудрая, выбраўшы менавіта гэтае месца для свайго селішча. І няхай сабе ён пакуль бронзавы і халодны. Ён думае пра цябе, пра тваіх дзетак. А рукі майстравога і мастака з магілы — гэта рукі, падстаўленыя, каб падтрымаць цябе. Яны сцвярджаюць жыццё. Яны блаславяюць яго і вераць у яго і ў цябе, таму што без гэтай веры няма і не можа быць ні майстравога, ні мастака, ні мысліцеля.

